21 чэрвеня 2019 | № 23 (634)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА
•ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

Праца і мова
Стар. 3

**4** ПРА СУМНЫ ЛЁС ГІГАНЦКІХ БАБРОЎ

Праблема адаптацыі да пераменаў актуальная не толькі на побытавым узроўні. З ёй пастаянна сутыкаецца і «беларуская мадэль», якая прэтэндуе на званне «донара еўрапейскай стабільнасці»

**5–8**



ЭКАНАМІЧНАЯ БЕЛАРУСЬ

**9** ДРУГАЯ СМЕРЦЬ ДЭ ГОЛЯ

Французскія галісты губляюць палітычную вагу і электаральную базу. Ніводны з аўтарытэтаў, у тым ліку Нікаля Сарказі, не гарыць жаданнем выступаць у ролі крызіснага менеджара

**10–11** З БЫКАВЫМ БЕЗ БЫКАВА



Васілю Быкаву 19 чэрвеня было б 95. І зусім побач з гэтай датай — дзень сыходу. Сёлета ўжо 16 гадоў, як Беларусь жыве без Быкава, і, мусіць, час прыгадаць, што было зроблена для яго памяці

# Гульнявая залежнасць



Сяргей ПУЛЬША

**Жыхары сталіцы набраліся цярпення. У Мінску стартавалі II Еўрапейскія гульні. Яны скончацца 30 чэрвеня, і да гэтага часу мінчукам давядзецца прыстасоўвацца да шматлікіх нязручнасцяў ці з'язджаць на лецішчы.**

Гэтыя спартовыя спаборніцтвы падаюцца як адна з глабальных падзеяў, якія павінны падвысіць вядомасць Беларусі ў свеце, узбагаціць яе турыстычны патэнцыял, прыцягнуць у краіну замежных турыстаў. Але насамрэч — гэта нешта кшталту гульнявой залежнасці.

Зразумела, добра, калі мы праводзілі Чэмпіянат свету па хакеі — гэта відовішчны і папулярны від спорту. Таксама было б нядрэнна правесці Чэмпіянат свету па футболе ці, напрыклад, Алімпіяду. Але што такое Еўрапейскія гульні?

Насамрэч, у Еўропе пра іх мала хто чуў. Гэта, збольшага, падзея рэгіянальная, не вельмі папулярная, але надзвычай дарагая. Кошт саміх гульняў агучыў непасрэдна Аляксандр Лукашэнка. Па яго словах, «нам трэба будзе выдаткаваць недзе пад 50 мільёнаў долараў… Гэта слёзы для краіны».

Ад пачатку Еўрапейскія гульні павінны былі прайсці ў Нідэрландах. Спаборніцтвы меркавалася правесці ў сямі гарадах, у тым ліку Амстэрдаме, Гаазе, Эйндховене, Ратэрдаме, Утрэхце. Але 10 чэрвеня 2015 года Нідэрланды адмовіліся ад правядзення гульняў, і не ў апошнюю чаргу таму, што апуха не варта кажуха — выдаткі на правядзенне гульняў несумяшчальныя з прыбыткам, які планавалася атрымаць. Відаць, мы багацейшыя за галандцаў.

«Рэгіянальнасць» гэтых гульняў пацвярджае і сама іх праграма. Як паведамляе афіцыйны сайт мерапрыемства, Еўрагульні пройдуць на 12 спартыўных аб'ектах. Больш за 4000 атлетаў з 50 краін разыграюць 200 камплектаў узнагарод у 15 відах спорту. Змаганні ў 9 відах стануць кваліфікацыйнымі да XXXII Алімпійскіх гульняў 2020 года ў Токіё, паведамляе афіцыйны сайт гульняў. «Кваліфікацыя» на Алімпіяду — гэта не падзея сусветнага маштабу, пагадзіцеся.

Можа быць, таму цікавасць да іх не вельмі высокая. Паводле паведамлення агенцтва «Мінск-Навіны», заўзятары набылі каля 160 тысяч квіткоў на II Еўрапейскія гульні. Прычым, львіную долю квіткоў набылі беларусы. На долю замежнікаў прыходзіцца 10–15% набытых квіткоў.

Стадыён «Дынама» змяшчае каля 22 тысяч чалавек. Нават калі замежнікі набылі ўсе 15% квіткоў на адкрыццё — гэта толькі 20 тысяч. Кошт квітка на ўрачыстасць — ад 150 да 300 рублёў. Я вельмі сумняваюся, што шараговы беларус здольны заплаціць ад 70 да 150 долараў толькі за тое, каб паўдзельнічаць у вялікім шоу.

Міжволі ўзнікае пытанне: 160 тысяч квіткоў — гэта шмат для 12 спартыўных аб'ектаў і 15 відаў спорту? Падаецца, не вельмі.

Па інсайдарскай інфармацыі, арганізатары і прыроўненыя да іх, насамрэч, енчылі. Вялікага наплыву турыстаў чакаць не даводзіцца, у неасаблівa відовішчных спартовых дысцыплінах, кшталту самба, скокаў на батуце ці веласпорту, можа здарыцца «правіс» з гледачамі. Сітуацыя пагаршаецца тым, што студэнты і школьнікі зараз на вакацыях. Таму іх не загоніш у добраахвотна-прымусовым парадку запаўняць трыбуны.

Вялікага рэзанансу ад гэтага мерапрыемства чакаць не



варта. Але жыхарам і гасцям сталіцы давядзецца перажыць багата нязручнасцяў — з-за пампезнасці і спробаў стварыць «галоўную спартовую падзею года» з шараговых, падаецца, спаборніцтваў.

Ужо было і яшчэ будзе перманентнае перакрыццё аўтамабільнага руху на вуліцах сталіцы — ці то для масавых гулянняў заўзятараў, ці то для «прабегу алімпійскага агню». Накладаецца на гэта яшчэ і падрыхтоўка да параду 3 ліпеня (гэтага ж ніхто не адмяняў). Такая дысцыпліна, як шасэйныя велагонкі, таксама дадасць галаўнога болю аўтааматарам — вось хто будзе штодня вывучаць расклад спаборніцтваў, варожачы, дзе і што перакрыюць і як сёння даехаць да любімай працы! А чаго вартыя асобныя палосы для руху спартоўцаў!

Дадасца клопату міліцыянтам, што нясуць службу ва ўзмоцненым рэжыме. «Мінсктранс» ламае галаву, як і куды пераразмеркаваць маршруты. А горш за ўсіх давялося студэнтам, якіх на час гульняў павысялялі са сваіх інтэрнатаў, каб засяліць туды спартовых заўзятараў — як гэта было і на Чэмпіянаце свету па хакеі.

**Вялікага наплыву турыстаў чакаць не даводзіцца, у неасаблівa відовішчных спартовых дысцыплінах можа здарыцца «правіс» з гледачамі**

Невядома, ці ўваходзяць у каштарыс гульняў ускосныя выдаткі. Напрыклад, для кіроўцаў аўтобусаў пашылі парадныя строі, кошт адзення аднаго валанцёра — 500 долараў. Бясплатны праезд у транспарце валанцёраў — а іх аж восем тысяч. І іншае, іншае, іншае…

Зразумела, гэтыя грошы трэба неяк адбіваць, каб калі не кампенсаваць, то хаця б мінімізаваць выдаткі. І, падаецца, гэта можна зрабіць толькі адным спосабам. На час Еўрагульняў ператварыць Мінск у маленькі Лас-Вегас.

Размова ідзе не пра казіно (хаця і пра іх таксама). У розных зонах канцэнтрацыі заўзятараў неабходна тэрмінова стварыць адмысловыя букмекерскія кропкі. «Стаўкі на спорт: гуляюць яны — перамагаеш ты!» — гучыць штодня ў мінскім метро. Нездарма адным з першых спонсараў Еўрагульняў стаў аператар электронных інтэрактыўных гульняў «Спорт-пары».

Але, з іншага боку, — мы падсадзім на гульнявую залежнасць народ. Хаця якая розніца, калі на такую залежнасць падсела ўлада?

# У «Белэнерга» загаварылі пра АЭС на мове працiўнiкаў станцыі

Кірыл ІВАНОЎ

**У дзяржаўнай энергетычнай кампаніі прызналі, што запуск АЭС нясе ў сабе рызыкі.**

Інтэрв'ю ў газеце «Энергетыка Беларусі» галоўнага інжынера ДВА «Белэнерга» Уладзіміра Баброва характэрнае па шэрагу прычын. У ім адкрытым тэкстам гаворыцца пра праблемы, якія непазбежна прынясе энергасістэме краіны запуск БелАЭС.

Фактычна, першы намеснік гендырэктара «Белэнерга» гаворыць мовай працiўнiкаў запуску станцыі і незалежных экспертаў, якія крытыкавалі ідэю будаўніцтва АЭС ад самага пачатку.

Уладзімір Баброў папярэджвае пра цяжкасці, звязаныя з перыядычнай зменай магутнасці, яе ступеньчатым уздымам і скідам нагрузак. Намеснік гендырэктара «Белэнерга» таксама кажа пра тое, што будаўніцтва на існуючых электрастанцыях дадатковых пікава-рэзервовых магутнасцяў не паспявае за запускам першага блока: «Аб'ектыўна разглядаючы сітуацыю, мы бачым, што будаўніцтва гэтых крыніц ужо спазняецца: першы энергаблок АЭС (а па некаторых прагнозах — і другі) будзе працаваць, калі гэтыя крыніцы яшчэ не будуць уведзеныя».

Па словах галоўнага інжынера, «рэзервовыя магутнасці ў выпадку неабходнасці могуць быць прыцягнутыя за кошт энергетычных сувязяў з суседнімі краінамі». Але пазіцыя Літвы нам добра вядомая. Не дадае аптымізму і планаванае адключэнне краін Балтыі ад адзінай энергасістэмы былога СССР і іх падключэнне да энергасістэмы Цэнтральнай Еўропы, што ставіць пад пытанне ўдзел Украіны. Ёсць пытанні і з Расіяй у гэтым плане.

Уладзімір Баброў прагназуе падзенне даходаў абласных энергааб'яднанняў з уводзенем у эксплуатацыю АЭС.

«Як у выніку адбудзецца ўбудаванне БелАЭС у энергасістэму, пакажа толькі час. Колькі б мы ні пралічвалі на паперы розныя варыянты, якімі б лічбамі і дадзенымі не аперавалі, толькі сумесная праца ўсёй энергасістэмы дазволіць нам забяспечыць надзейнае і стабільнае яе функцыянаванне», — падвёў вынік прадстаўнік «Белэнерга».

Можна толькі здагадвацца, чаму такое інтэрв'ю з'явілася напярэдадні запуску першага блока станцыі. Магчыма, хутка з'явяцца іншыя падрабязнасці. Але факт застаецца фактам: калі раней кіраўнік дзяржавы толькі ў агульных рысах запытваўся, як краіна будзе выкарыстоўваць энергію, якую будзе выпрацоўваць АЭС, то цяпер пра гэта загаварылі ў профільнай арганізацыі. З лічбамі і трывожнымі прагнозамі.

**Gazetaby.com, пераклад НЧ**

# Краіна супраць катаванняў

**У Беларусі ўпершыню пройдзе Тыдзень супраць катаванняў. Гэта мерапрыемства прымеркаванае да Міжнароднага дня ААН у падтрымку ахвяраў катаванняў — 26 чэрвеня.**



Фота www.notorturetj.org

Праблема катаванняў і іншых формаў жорсткага, бесчалавечнага або зняважальнага абыходжання ці пакарання застаецца актуальнай у сучасным свеце. Гэтая практыка пашыраная ў многіх постсавецкіх рэспубліках, і Беларусь не з'яўляецца выключэннем. Беларускія праваабаронцы нязменна сутыкаюцца з выпадкамі катаванняў і нават гвалтоўных смерцяў у месцах несвабоды, негуманным абыходжаннем пры затрыманнях і ўтрыманні людзей у аддзяленнях міліцыі, ІЧУ, СІЗА.

Але складана сказаць, які рэальны маштаб праблемы, бо ў дзяржаве створаны ўсе ўмовы, каб грамадства пра гэта не даведалася. Статыстыкі па выпадках катаванняў, жорсткага абыходжання і іх расследаванні няма. Нацыянальнага механізму па прадухіленні катаванняў няма. Незалежныя эксперты наведваць месцы несвабоды не могуць.

Як спыніць негуманную практыку ў такой сітуацыі? Рэцэпт адзін — не маўчаць. Маўчанне і бяздзейнасць толькі дапамагаюць катаваць. Ахвярам — не мірыцца з гвалтам, надаваць такія выпадкі агалосцы, абараняць сваю годнасць. Журналістам і праваабаронцам — аказваць прафесійную дапамогу пацярпелым, трымаць фокус на праблеме.

Усе мерапрыемствы Тыдня супраць катаванняў нясуць у сабе заклік — спрабаваць дзейнічаць, каб разам наблізіцца да грамадства, у якім гэтыя грубыя парушэнні правоў чалавека будуць выкараненыя.

Таму мэта праваабарончай кампаніі — стварэнне экспертных і даступных шырокай публіцы пляцовак для абмеркавання розных аспектаў праблемы катаванняў і бесчалавечнага абыходжання, абмену практыкамі паміж спецыялістамі з розных сфераў і краінаў, а таксама аказанне прафесійнай падтрымкі людзям з траўматычным досведам. Гасцямі кампаніі стануць эксперты, праваабаронцы і журналісты, якія спецыялізуюцца на тэме ў суседніх краінах — Расіі, Украіне, Польшчы.

У праграме Тыдня — экспертны круглы стол, анлайн прэзентацыі сацыялагічнага даследавання і маніторынгавага сэрвісу, публічныя лекцыя і дыскусія з кінапаказам, псіхалагічныя і юрыдычныя кансультацыі для ахвяраў і іх блізкіх.

У Мінску мерапрыемствы праваабарончага Тыдня супраць катаванняў адбудуцца з 24 па 28 чэрвеня.

Напрыклад, 24 чэрвеня пройдзе публічная лекцыя псіхолага «Перажыць траўму: як дапамагчы сабе і блізкім» (неабходная рэгістрацыя на мерапрыемства). У той жа дзень адбудзецца анлайн-прэзентацыя сацыялагічнага даследавання «Вымярэнне ўзроўню талерантнасці беларусаў да дзяржаўнага гвалту» (праведзена ў красавіку 2019-га РГА «Прававая ініцыятыва» і кампаніяй SATIO).

25 чэрвеня пройдзе анлайн-прэзентацыя сэрвісу для маніторынгу выканання дзяржавай рэкамендацый Камітэта супраць катаванняў ААН па пятым перыядычным дакладзе Беларусі.

Круглы стол «Нацыянальныя прэвентыўныя механізмы і кантроль за выкананнем правоў асуджаных» пройдзе 26 чэрвеня, ён адбудзецца пры падтрымцы Прадстаўніцтва ААН у Беларусі.

27 чэрвеня на офісе Беларускай асацыяцыі журналістаў пройдзе адкрытая сустрэча з галоўным рэдактарам «Медыязоны» Сяргеем Смірновым на тэму «Медыяправаабарона: Што? Як? Чаму?». Неабходная рэгістрацыя.

А 28 чэрвеня адбудзецца публічная дыскусія з удзелам прадстаўнікоў кампаніі SATIO і Камітэта супраць катаванняў (Ніжні Ноўгарад, Расія) «Катаванні. На якой мове гаварыць пра праблему з грамадствам?». Размова пойдзе пра даследаванні і дакументалістыку як неюрыдычныя інструменты прадухілення катаванняў.

Таксама пройдуць прэзентацыі высноваў даследавання «Вымярэнне ўзроўню талерантнасці беларусаў да дзяржаўнага гвалту» ад SATIO і фільма «Крайні поўдзень» ад Камітэта супраць катаванняў (неабходная рэгістрацыя на мерапрыемства).

Акрамя экспертных і публічных мерапрыемстваў на працягу ўсяго тыдня будуць праходзіць псіхалагічныя і юрыдычныя кансультацыі для ахвяраў катаванняў і бесчалавечнага абыходжання ды іх блізкіх.

Каб атрымаць кансультацыю псіхолага, неабходна запоўніць форму рэгістрацыі. За навінамі кампаніі можна сачыць на сайце protivpytok.org, на старонцы Прававой ініцыятывы ў Фэйсбуку па хэштэгам #protivpytok #противпыток.

Каб атрымаць кансультацыю юрыста, неабходна запісацца па тэлефонах: +375 29 683 79 64, +375 29 605 22 74.

Арганізатарамі Тыдня супраць катаванняў з'яўляюцца ініцыятыва «Праваабаронцы супраць катаванняў» і РГА «Прававая ініцыятыва», партнёры — ПУ «Беларускі дакументацыйны цэнтр», Кансультацыйны цэнтр па актуальных міжнародных практыках і іх імплементацыі ў праве «Хьюман Канстанта», ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў».

Ініцыятыва «Праваабаронцы супраць катаванняў» была заснавана ў 2011 годзе і аб'ядноўвае праваабаронцаў і юрыстаў, якія займаюцца праблемай катаванняў у Беларусі і выканання дзяржавай артыкула 7 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах.





### Удакладненне

*Шаноўныя чытачы!*

*У №22 у матэрыяле Аляксандра Кур'яновіча «Час суда, або Хто стаяў на варце Канстытуцыі» дапушчана прыкрая памылка. Суддзя Канстытуцыйнага Суда ў 1996 годзе Аляксандр Вашкевіч названы Андрэем Вашкевічам. Пры гэтым змешчаны і памылковы фотаздымак.*

*Мы шчыра выбачаемся за памылку перад Аляксандрам Яўгенавічам Вашкевічам, дзякуем былому суддзю Канстытуцыйнага Суда Міхаілу Пастухову за выпраўленне памылкі.*

*Пра тое, у чым Міхаіл Пастухоў згодны з Аляксандрам Кур'яновічам, а ў чым — не, чытайце неўзабаве.*

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Праца і мова

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Нават летам, у той час, калі зусім не хочацца думаць пра сур'ёзныя рэчы, а хочацца марозіва, усё ж не пакідае адчуванне, што народ і ўлада, якая «для народа», жывуць у розных краінах.**

На тыдні нас парадаваў Белстат. Паводле яго дадзеных, рэальныя наяўныя грашовыя даходы насельніцтва Беларусі (за вылікам падаткаў, збораў і ўнёскаў, скарэктаваныя на індэкс спажывецкіх цэнаў на тавары і паслугі) у студзені-красавіку 2019 года склалі 107,6% да ўзроўню студзеня-красавіка 2018 года. Тобок, па ідэі, мы сталі багацейшыя аж на 7,6%.

Быццам бы багацце мы заслужылі ўдарнай працай. Як адзначае ведамства, у агульным аб'ёме грашовых даходаў аплата працы займае 63,8%, даходы ад прадпрымальніцкай і іншай дзейнасці, якая прыносіць даход, — 7,6%, трансферты насельніцтву (пенсіі, дапамогі, стыпендыі і іншыя падобныя рэчы) — 24,2%, даходы ад уласнасці і іншыя даходы — 4,4%.

Але нешта слаба адчуваецца гэтае багацце ў кішэнях. Магчыма, не толькі таму, што не вельмі высокі давер да лічбаў Белстата; некаторыя беларусы сваіх зробленых грошай — па статыстыцы ці па-за ёй, — не бачаць увогуле.

У панядзелак палыхнула ў Гатаве. Работнікам прадпрыемства «Праммеханіка» з сакавіка не плацілі заробак, і яны наладзілі страйк. «З сакавіка нам не плацяць зарплату, скажыце, як нам жыць?» — з такімі словамі ў рэдакцыю onliner.by патэлефанавалі працаўнікі прадпрыемства. Па іх словах, вось ужо тры месяцы ім выдаюць заробак часткамі па 20–80 рублёў. Прадпрыемства шмат каму вінна ад 2 да 4 тысяч рублёў.

«Не будзем працаваць да таго моманту, пакуль нам не заплацяць грошы, — кажуць працоўныя. — З сакавіка нам ужо нармальна не плацяць. Кідаюць часткамі, і незразумела як. То 20, то 40, то 80 рублёў. Ты ніколі не ведаеш, якая зарплата табе прыйдзе і калі. А ў нас дзеці, крэдыты».

«Мы ж не філонім, мы добрасумленна выконваем свае абавязкі, — тлумачаць рабочыя. — Трэба было заказ для Красасельскага цэментнага завода зрабіць, дык заставаліся звыш часу працаваць, суткі працавалі, каб усё здаць. Нам абяцалі грошы — дзе яны? Нічога. Толькі абяцанкі адны... Пацярпіце да пятніцы, кажуць, а ў пятніцу — пацярпіце да панядзелка. І так пацярпіце ды пацярпіце... Колькі ўжо можна?»

Правільна, ніколькі. Таму да рабочых далучыліся іншыя супрацоўнікі, у тым ліку інжынеры, бо іх затрымкі з выплатай заробкаў таксама тычацца. Паводле інфармацыі з прадпрыемства, за апошнія два тыдні са 100 працаўнікоў завода звольніліся каля 20%, у тым ліку частка ІТР.

«Калі хочаш — звальняйся, ніхто не трымае!» — звычайна кажуць «гаспадары» на прадпрыемствах. Маўляў, звольніцеся з працы, трапіце ў шэрагі «дармаедаў», а працы больш нідзе не знойдзеце. Але гэтая «страшылка» ўжо не працуе ў дачыненні да даведзеных да адчаю людзей.

Аднак праца ёсць, але не ў нас. Гэта заўважыла нават польская «Rzeczpospolita». Паводле выдання, тысячы беларусаў едуць на працу ў Польшчу, пры гэтым працоўная міграцыя паскараецца.

Выезды беларусаў на працу ў Польшчу пачаліся два гады таму, піша «Rzeczpospolita». «Тады з Брэсцкай вобласці на працу выехала ў шэсць разоў больш людзей, чым годам раней. Феномен эканамічнай эміграцыі на Захад рос ужо тры гады, але сёлета ён відавочна паскорыўся. Кошт жыцця ў Беларусі супастаўны з коштам у Польшчы, але сярэдні заробак у чатыры разы ніжэйшы», — зазначае газета.

За апошнія 2–3 гады колькасць легальных агенцтваў па працаўладкаванні па наборы персаналу ў Польшчу павялічылася ў некалькі разоў. Цяпер у Сінявокай зарэгістравана больш за 50 кампаній, якія працуюць па ўсёй Беларусі і займаюцца найманнем супрацоўнікаў для польскіх працадаўцаў. Кожны год некалькі тысяч беларусаў з'язджаюць у Польшчу, адзначае «Rzeczpospolita», і дадае, што да 2017 года безумоўным лідарам па колькасці працоўных мігрантаў была Расія. А з гэтага года стала прыкметна расці колькасць тых, хто выехаў на заробкі ў Польшчу з Беларусі.

**Мы самі выціскаем з краіны сваіх спецыялістаў. А потым скардзімся на недахоп будаўнікоў, лекараў, навукоўцаў... Больш таленавітыя, больш маладыя, больш лёгкія на пад'ём — з'язджаюць. А замяніць іх няма кім. І кіраўніку дзяржавы даводзіцца толькі рабіць «разносы» з-за недахопу кваліфікаваных кадраў**

Беларусаў у Польшчу прыцягвае не толькі заробак. «У гэтым годзе новая з'ява: расце эканамічная эміграцыя спецыялістаў з Беларусі — лекараў, выкладчыкаў і навукоўцаў, — адзначае выданне. — Яны патрэбныя і Польшчы, і прыбалтыйскім рэспублікам — Літве, Латвіі і Эстоніі. Польшча больш прываблівая для беларускіх спецыялістаў не толькі з-за вялікага рынку працы, але і з-за мовы. Беларусы хутка вывучаюць польскую, здаюць іспыты і часта працуюць па прафесіі. Яны таксама гатовыя да любой працы, проста каб ім плацілі лепш».

Такім чынам, мы самі выціскаем з краіны сваіх спецыялістаў. А потым скардзімся на недахоп будаўнікоў, лекараў, навукоўцаў... Больш таленавітыя, больш маладыя, больш лёгкія на пад'ём — з'язджаюць. А замяніць іх няма кім. І кіраўніку дзяржавы даводзіцца толькі рабіць «разносы» з-за недахопу кваліфікаваных кадраў.

Калі супаставіць страйк у Гатаве і артыкул у «Rzeczpospolita» — міжволі прыходзіць на памяць рэклама банку «Імперыял» з 1990-х гадоў, калі цар Аляксандр ІІ бачыць, як лебедзям падразаюць крылы, каб яны не зляцелі ў вырай, і кажа: «Карміць трэба, тады не зляцяць».

І з'язджаюць не толькі ў Польшчу. Колькі нашых знайшлі працу ў больш вольнай Украіне ці больш моўна спрыяльнай Расіі?

Дарэчы, для апошніх — не вельмі добрая навіна. Беларусь і Расія дагэтуль не дамовіліся пра адмену роўмінгу паміж дзвюма краінамі. Гэта планавалася зрабіць у межах «Саюзнай дзяржавы», пра якую зараз так клапоціцца Пуцін. Але працэс узгаднення і ўдакладнення пытання адмены «саюзнага» роўмінгу працягваецца, паведаміў дэпутат Нацыянальнага сходу Андрэй Наўмовіч.

Група высокага ўзроўню 26 лютага 2019 года сваім пратакольным рашэннем рэкамендавала адпаведным міністэрствам унесці на разгляд урадаў дзвюх краін узгодненую пазіцыю па пытанні аб адмене роўмінгу на тэрыторыі «Саюзнай дзяржавы». «Аднак міністэрствы не змаглі выканаць пратакольнае рашэнне з прычыны рознага разумення асобных пытанняў, змест якіх кожны з бакоў накіраваў на разгляд ва ўрады Беларусі і Расіі», — сказаў Наўмовіч.

Так што і аднолькавая мова не заўсёды дапамагае.

Але ёсць і прыемныя моўныя навіны. У папулярным у Беларусі месенджары Viber з'явілася беларуская мова. Цяпер можна ўсталяваць сабе на мабільны тэлефон беларускую версію. Праўда, яна пакуль тэставая.

Як зрабіць месенджар беларускамоўным? Трэба спампаваць апошнюю версію Viber, зайсці ў «Налады», выбраць «Агульная» і паставіць галачку насупраць «беларуская».

Раней беларуская мова з'явілася ў «Аднакласніках». Цікава, калі яна з'явіцца ў кіраўніцтва Беларусі?

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### Аляксандр Мілінкевіч



**Заснавальнік прэміі імя Васіля Быкава «За свабоду думкі» паведаміў, што ў гэтым годзе яе ўручаць не будуць.**

Паводле яго словаў, наспела патрэба ў перафарматаванні прэміі. «Ужо калі мы адзначалі 10-годдзе прэміі імя Васіля Быкава, разумелі, што яна патрабуе абнаўлення і перафарматавання. Узнагарода не павінна быць звязаная са мной або Рухам «За Свабоду», прэмія павінна стаць сапраўды народнай, бо Быкаў — гэта не толькі выдатны пісьменнік, ён адзін з духоўных лідараў нацыі, яго часцінка жыве ў кожным беларусе», — сказаў Мілінкевіч.

У гэтым годзе Аляксандру Мілінкевічу не ўдалося рэалізаваць план перафарматавання, але плануецца, што ў наступным годзе не толькі былыя лаўрэаты, а кожны жыхар краіны зможа паўплываць на выбар намінантаў, і пазней прагаласаваць за пераможцу. «Для вызначэння лаўрэата будзем шырока выкарыстоўваць сацыяльныя сеткі. Падрыхтоўка да цырымоніі ўручэння прэміі будзе суправаджацца кампаніяй папулярызацыі твораў і жыццёвых прынцыпаў Быкава», — адзначыў ён.

Тым не менш, штогадовае мерапрыемства памяці пісьменніка пройдзе 22 чэрвеня на радзіме Васіля Быкава ў вёсцы Бычкі Ушацкага раёна Віцебскай вобласці.

### Міхаіл Жамчужны



**Палітвязень у Горацкай калоніі знаходзіцца два гады, і паўтара з іх ён адбыў у штрафным ізалятары.**

Міхаіл Жамчужны адмаўляецца ісці ў атрад, за што яго нязменна караюць накіраваннем у штрафны ізалятар ці памяшканне камернага тыпу. Жамчужны, па словах яго адваката, падаў ужо больш за 50 скаргаў на прысуды ў Горацкай папраўчай калоніі №9. Усе яны не былі задаволеныя.

17 чэрвеня магілёўскі абласны суд пакінуў без задавальнення чарговую скаргу Жамчужнага на спагнанне ў Горацкай калоніі. Нагодай для спагнання стала чарговае змяшчэнне Жамчужнага ў памяшканне камернага тыпу на 2 месяцы.

Палітвязня пакаралі за адмову падпарадкоўвацца загаду аб пераходзе ў атрад для пражывання з іншымі асуджанымі. Жамчужны аргументуе непадпарадкаванне адміністрацыі жаданнем папярэдзіць пагрозу асабістай бяспекі, а таксама замаху на яго гонар і годнасць. Ён настойвае, што пагроза зыходзіць ад іншых асуджаных, і патрабуе, каб у калоніі яму знайшлі бяспечнае месца для адбыцця пакарання. Яго звароты застаюцца без задавальнення.

Жамчужнага караюць штрафным ізалятарам або адпраўляюць у памяшканні камернага тыпу з 2017 года. Тады ў яго адбыўся канфлікт з іншымі асуджанымі, які прывёў да таго, што яму пачалі пагражаць фізічнай расправай. Факт канфлікту прызнаў Горацкі суд, які палічыў, аднак, што асуджаны «пераацэньвае» значэнне сваіх довадаў з нагоды канфлікту.

### Мехрдад Джамшыдзіян



**Іранцу, якому на радзіме пагражае смяротнае пакаранне, дазволілі застацца ў Беларусі. Пра гэта паведаміў «Радыё Свабода» начальнік Упраўлення па грамадзянстве і міграцыі МУС Беларусі палкоўнік Аляксей Бягун.**

«Міністэрства ўнутраных спраў прыняло рашэнне дазволіць застацца ў Беларусі іранцу Мехрдаду Джамшыдзіяну з наданнем адпаведнага статусу з гуманітарных меркаванняў», — сказаў Бягун.

Мехрдад Джамшыдзіян жыве ў Беларусі з 1993 года. Тут ажаніўся, мае трох дарослых дзяцей, прыняў хрысціянства. У 2012 годзе ў Іране былі забітыя яго маці і брат. Іранскія праваахоўнікі пачалі падазраваць у гэтым Джамшыдзіяна. Сам іранец адмаўляе датычнасць да злачынства і кажа, што ў той час знаходзіўся ў Беларусі, што пацвярджаецца ўязнымі дакументамі.

7 сакавіка 2019 года аддзел па грамадзянстве і міграцыі Маскоўскага РУУС Мінска прыняў рашэнне аб выдачы Джамшыдзіяна ў Іран. 14 траўня суд Маскоўскага раёна Мінска адмяніў гэтае рашэнне, Джамшыдзіяна выпусцілі на волю пасля 11 месяцаў у СІЗА, аднак ён павінен быў пакінуць Беларусь добраахвотна на працягу трох месяцаў.

Цяпер Джамшыдзіян застаецца ў Беларусі з сям'ёй.

а | Азбука паліталогіі

# Пра сумны лёс гіганцкіх баброў



Сяргей НІКАЛЮК

**Жылі-былі яшчэ да заканчэння апошняга ледавіковага перыяду ў Амерыцы гіганцкія бабры. Былі яны ў даўжыню каля 1,9 метра, а іх сярэдняя вага дасягала 125 кілаграмаў. Насялялі яны вадаёмы ды харчаваліся раслінамі.**

Пацяпленне істотна скарацiла асяродак пражывання гіганцкіх баброў, а скарэктаваць яго за кошт будаўніцтва плацін яны не маглі. Таму сучасныя бабры ацалелі да нашых дзён, а гіганцкія бабры вымерлі.

Адаптацыя да пераменаў — вялікае мастацтва. Тыя, хто з дзяцінства не здолеў авалодаць ім, вымушаныя паўтарыць лёс гіганцкіх баброў. Аднак большасць прадстаўнікоў сацыякультурнага тыпу, які быў апісаны сацыёлагам Юрыем Лявадам пад імем «чалавек савецкі», вельмі паспяхова адаптуюцца да пераменаў.

І тут міжволі прыгадваецца анекдот, папулярны ў мае студэнцкія гады: «Вы вагаліся калі-небудзь?» — «Так, але толькі разам з лініяй партыі».

У адрозненне ад баброў (звычайных, а не гіганцкіх) сучасны варыянт «чалавека савецкага» і не думае пра змену асяродку пражывання. Калі ён сутыкаецца з крызісам, дык праколвае чарговую дзірачку на рамяні, замест таго каб займацца пошукам дадатковых крыніц заробку. Такі тып пасіўнага прыстасавання да цяжкасцяў у сацыялогіі прынята называць «паніжальнай адаптацыяй».

Аднак з любога правіла існуюць выключэнні. Таму і сярод «людзей савецкіх» сустракаюцца добра адукаваныя, канкурэнтаздольныя асобы. Для іх працяглы крызіс — лішняя нагода сур’ёзна задумацца наконт знешняй эміграцыі.

Зразумела, не выключаны і варыянт эміграцыі ўнутранай (сыход у прыватнае жыццё). Сёння магчымасцяў для такога кшталту эміграцыі дастаткова: ад заняткаў лацінаамерыканскімі танцамі да вырошчвання экзатычнай садавіны на лецішчы.

«Наогул кажучы, — тлумачыў Юрый Лявада, — свае мэты ў свядомай і актыўнай форме выказвае нязначная меншасць. Так адбываецца заўсёды і ўсюды ва ўсіх грамадствах, якія нам вядомыя. А астатнія прыстасоўваюцца, далучаюцца. І я не бачу перспектываў, каб было інакш».

## Ласкавае цялятка дзвюх матак смокча

Але не варта думаць, што праблема адаптацыі да пераменаў актуальная толькі на побытавым узроўні. З аналагічнай праблемай пастаянна сутыкаецца і «беларуская мадэль», якая прэтэндуе на званне «донара еўрапейскай стабільнасці». Яе галоўны архітэктар, безумоўна, усведамляе, што справа ўсяго яго жыцця можа падзяліць лёс гіганцкіх баброў. Абмяжуюся адной цытатай, запазычанай з тэксту Паслання–2013: «Мы можам ці прыстасавацца да бурлівых пераменаў, ці застацца на ўзбочыне гісторыі. Іншага не дадзена».

Іншага не дадзена. А так хочацца і рыбку з’есці, і ногі не замачыць, што ў дадзеным выпадку азначае прыстасаванне да пераменаў без кардынальных зменаў у базавых характарыстыках «беларускай мадэлі».

**За чацвёртую пяцігодку сярэднегадавы індэкс рэальна наяўных грашовых даходаў насельніцтва склаў 106,3% супраць 111,8% у трэцяй пяцігодцы. Мне цяжка ацаніць, наколькі такое значнае зніжэнне індэкса наблізіла ўзровень жыцця беларусаў да еўрапейскага**

Задача, скажам шчыра, архіскладаная. Адзін з варыянтаў яе вырашэння — прыкінуцца мостам паміж Усходам і Захадам, гэтакім пасярэднікам паміж Еўрапейскім і Еўразійскім саюзамі.

Ласкавае цялятка дзвюх матак смокча, а ў цялятці, што зручна размясцілася на мосце, магчымасці для здабывання дадатковых порцый малака павялічваюцца шматкроць. Колькасцю малака, аднак, выгады не абмяжоўваюцца. Не менш важныя яго якасныя характарыстыкі. «ЕС — гэта тэхналогіі, крэдытныя рэсурсы, інвестыцыі. Таму гэты вектар вельмі важны для нас, і мы будзем імкнуцца да ўзмацнення гэтага вектара», — даходліва патлумачыў адзіны палітык (АП) у чэрвені 2009 года міністру замежных спраў Славеніі Самуэлю Жбогару, а заадно і ўсім нам.

За мінулыя дзесяць гадоў Еўропа сваёй прывабнасці для Беларусі не страціла. Што да Расіі, дык яна так і не адгукнулася на шматлікія просьбы сузаснавальніка Саюзнай дзяржавы зрабіць «роўныя ўмовы гаспадарання». А за кошт так званага «падатковага манеўру» Беларусь, паводле разлікаў АП, з 2015 года страціла 3,6 мільярда долараў. Агульная ж сума стратаў да 2025 года складзе за 10,6 мільярда долараў. Вось такая бухгалтэрыя ад АП.

## Прычына ў мітусні

Аднак інвестыцыі, тэхналогіі і крэдытныя рэсурсы, якія прапануе Захад, — гэта ўсяго толькі прынада для прасцякоў. Неабходна тройчы падумаць, перш чым паспрабаваць яе заглынуць. Але беларусам пашанцавала. У краіне ёсць каму за іх прымаць рашэнні, і імя гэтага чалавека ні для каго не з’яўляецца таямніцай. Цытую: «Скажу вам шчыра, Захад — гэта такая прафанацыя, ні на што не здольныя людзі. Ні на што яны не здольныя, і з імі справу мець — трэба дзесяць разоў падумаць. Яны могуць цябе падмануць, і гэта са мной было ўжо не адзін раз. А потым, каб твар захаваць, пачынаюць патрабаваць — давай дэмакратызуй, дэвальвуй, выбары праводзь як трэба, палітвязняў выпускай».

Якім чынам ні на што не здольныя людзі ўмудраюцца быць сусветнымі лідарамі ў распрацоўцы найноўшых тэхналогій — пытанне асобнае. Але іх патрабаванне праводзіць выбары «як трэба», г.зн. згодна з заходнімі меркамі, здольнае дэстабілізаваць «беларускую мадэль». Сумнявацца ў гэтым не даводзіцца, бо беларуская стабільнасць не ў апошнюю чаргу трымаецца на своеасаблівасці нацыянальнай выбарчай сістэмы.

Тыя, хто ў гэтым сумняваецца, могуць пацікавіцца ў экс-старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаслава Кебіча, якім чынам, ён, калі быў галоўным кандыдатам ад улады, умудрыўся прайграць на прэзідэнцкіх выбарах у 1994 годзе. Што яму перашкодзіла сфармаваць ЦВК з сапраўдных прафесіяналаў-дзяржаўнікаў?

Чаму сучасны Захад ні на што не здольны (акрамя інвестыцый, тэхналогій і выдачы танных крэдытаў)? Прычына ў бесперапыннай мітусні палітыкаў. Сёння «адзін палітык абяцаў, а тут ужо іншы, ён табе нічога не абяцаў. Вось іх палітыка», — справядліва скардзіцца АП. Пра якое доўгачасовае супрацоўніцтва можна весці гаворку ў такіх умовах?

Рэгулярнае абнаўленне ўлады — прамы шлях да безадказнасці. Іншая справа, калі ўлада не змяняецца. Ці абяцаў АП у трэцяй перадвыбарнай праграме (сакавік 2006 года) у «бліжэйшыя пяць гадоў — давесці якасць жыцця нашых грамадзян да ўзроўню, параўнальнага з заходнееўрапейскім»? Абяцаў. Але еўрапейскія палітыкі палец аб палец не ўдарылі, каб рашуча знізіць якасць жыцця сваіх суайчыннікаў і тым самым зраўняць яго з беларускім.

Прайшло пяць гадоў. Тэрмін больш чым дастатковы, каб «дзесяць разоў падумаць» — і скарэктаваць чарговае перадвыбарчае абяцанне. У чацвёртай праграме (лістапад 2010 года) было заяўлена, што «да 2015 года ўзровень жыцця ў Беларусі наблізіцца да еўрапейскага».

За чацвёртую пяцігодку сярэднегадавы індэкс рэальна наяўных грашовых даходаў насельніцтва склаў 106,3% супраць 111,8% у трэцяй пяцігодцы. Мне цяжка ацаніць, наколькі такое значнае зніжэнне індэкса наблізіла ўзровень жыцця беларусаў да еўрапейскага. На жаль, АП, магчыма, праз сваю занятасць справамі дзяржаўнымі, з тлумачэннем так і не выступіў.

## Алей у агонь

Паводле культуролага Андрэя Пеліпенкі, «Рускай\расійскай свядомасці ўласцівая асаблівасць бясконца крыўдаваць і злавацца на свет за тое, што ён не хоча паводзіць сябе “правільна”. Замест практычных высноваў і спробаў разабрацца — бясконцыя чаканні, што свет вось-вось нарэшце падладзіцца пад нас і стане такім, як трэба».

Улічваючы культурную роднасць двух народаў, такая крыўдлівасць уласцівая і беларусам. Вось якімі словамі яе выказаў міністр замежных спраў Уладзімір Макей 4 чэрвеня ў Мінску на міжнародным семінары «10 гадоў “Усходняму партнёрству”: вынікі і перспектывы»: «Санкцыі і контрсанкцыі толькі падліваюць алею ў агонь, выключаюць пошук кампрамісу. Сумна, што і сама Беларусь, якая з’яўляецца і донарам стабільнасці, і спонсарам міратворчых высілкаў, і ўскосна пацярпелым ад гэтых санкцый бокам, застаецца сама пад санкцыямі, хай і мінімальнымі. Гэта тармозіць аднаўленне даверу паміж намі і Захадам».

Донар стабільнасці і фундатар міратворчых высілкаў ужо які год знаходзіцца пад санкцыямі краін, з якімі ён так шчодра і бескарысліва дзеліцца сваімі напрацоўкамі па падтрыманні стабільнасці (сацыяльнай, палітычнай і эканамічнай)! Ці можна сабе ўявіць нешта больш недарэчнае і несправядлівае ў сучасным свеце?

А раптам Беларусь у адказ на нежаданне Захаду лічыцца з нашымі інтарэсамі пакрыўдзіцца і адмовіцца выконваць ролю моста? Цікава было б паглядзець пасля гэтага на прыхільнікаў парламенцкіх рэспублік і адэптаў так званых правоў чалавека. Няўжо з сумнага лёсу гіганцкіх баброў яны так і не зрабілі ніякіх высноваў?

Не, еўрапейцы нездарма, насуперак ціску амерыканцаў, згаджаюцца на будаўніцтва газаправодаў у абыход дзяржавы-донара еўрапейскай стабільнасці.



# Беларусь Эканамічная



7 10 СПОСАБАЎ ЗМЯНШЭННЯ «ЖЫРОЎКІ»

8 КОЛЬКІ ЯШЧЭ ПРАСТАЯЦЬ «ХРУШЧОЎКІ»? МНОГІЯ НАШЫ АРХІТЭКТАРЫ АБАРАНЯЮЦЬ «ХРУШЧОЎКІ» І З ЭСТЭТЫЧНЫХ МЕРКАВАННЯЎ

САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНЫ ПРАЕКТ «НОВАГА ЧАСУ» | novychas.by

# ЖКГ: забраць у дзяржавы нашае

*Уладзімір НАВАСЯД*

**Нягледзячы на тое, што ў Беларусі амаль 95% жылля знаходзіцца ў прыватнай уласнасці, яно пераважна ўпраўляецца дзяржаўнымі кампаніямі. Гэтая дыспазіцыя інтарэсаў — аснова ўсіх канфліктаў і скаргаў у сферы жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Пра тое, як выправіць сітуацыю, чаму адлічэнні на капрамонт падобныя да фінансавай піраміды і чаму варта адмяніць тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі, для «Новага Часу» разважае былы дэпутат парламента, кіраўнік арганізацыі «Эфектыўнае кіраванне будынкамі», юрыст Уладзімір Навасяд.**



Асабліва важнае пытанне ў сферы ЖКГ — рэфармаванне сістэмы кіравання ў шматкватэрных дамах. Бо 71% жылога фонду — гэта менавіта шматкватэрныя дамы, а 29% — індывідуальныя. У суседняй Украіне гэтая прапорцыя — 50% на 50%, у Літве 58% на 42%. Адпаведна, і большасць выбаршчыкаў у нас пражывае ў шматкватэрніках, таму гэта як сацыяльна-эканамічнае, так і палітычнае пытанне.

## Стаць «калектыўным гаспадаром»

Жыллёва-камунальная гаспадарка складаецца з жыллёвага сектару і камунальнай гаспадаркі. І яны моцна адрозніваюцца па форме ўласнасці. Жыллёвая гаспадарка, то-бок наша з вамі жыллё, практычна на 95% знаходзіцца ў прыватнай уласнасці (у асноўным, ва ўласнасці фізічных асобаў).

Паводле дадзеных Белстату, агульны жыллёвы фонд Беларусі складае 256,4 мільёна квадратных метраў: у тым ліку дзяржаўны — 14,9 мільёна, прыватны — 241,4 мільёна «квадратаў». Пры гэтым аб'яднаная таварыствамі ўласнікаў і арганізацыямі забудоўшчыкаў толькі прыкладна пятая частка плошчаў. Існуюць крыху болей за 2 тысячы таварыстваў уласнікаў і пад 8 тысяч жыллёвых кааператываў у шматкватэрных жылых дамах.

Гэтыя дадзеныя наглядна паказваюць, што асноўным уласнікам жылля з'яўляецца прыватны ўладальнік, у той час як дзяржава валодае толькі 5,8% жылля.

Камунальная гаспадарка прадстаўлена манапалістамі па пастаўках асноўных камунальных паслуг (ацяпленне, электраэнергія, вада, каналізацыя, газ) і практычна на 100% належыць дзяржаве. Адпаведна размяркоўваецца і адказнасць. Таму і спосабы, а таксама хуткасць пераўтварэнняў у гэтых дзвюх сферах ЖКГ будуць адрозніваецца.

Казахстан, краіны Балтыі зрабілі стаўку на «калектыўнага гаспадара»: там стварылі ва ўсіх шматкватэрных дамах юрыдычныя асобы — таварыствы ўласнікаў. У трансфармацыі ЖКГ была зроблена стаўка на адмену тарыфаў жыллёвых паслуг і на пераход да метаду пакрыцця дамавых выдаткаў уласнікамі жылля. Усё гэта магчыма толькі ў рамках юрыдычнай асобы — таварыства ўласнікаў. Ніякія схемы кшталту «жыхары — Рады жыхароў — кіраўнікі кампаніяў» не працуюць і не будуць працаваць, а прывядуць да карупцыі і злоўжыванняў. Няма юрыдычнай асобы ў доме — няма кантролю і адказнасці!

Перадусім рэфармаванне камунальнай гаспадаркі вымагае антыманапольнага рэгулявання і канкурэнцыі. Добра сябе зарэкамендавала сістэма, пры якой транспартныя сеткі аддзеленыя ад вытворцаў паслугаў і належаць дзяржаве. Дзяржава, у сваю чаргу, гарантуе роўныя ўмовы доступу да гэтых сетак усім вытворцам незалежна ад формы ўласнасці.

Паколькі галоўны ўласнік жылля — прыватная асоба, то сістэме ЖКГ папросту наканавана развівацца так, каб цяжар утрымання маёмасці пераразмеркаваўся якраз на ўласніка, і каб уласнік выбудоўваў дакладныя і празрыстыя дамоўныя адносіны з трэцімі асобамі — вытворцамі і пастаўнікамі паслугаў. Але як гэта зрабіць?

## Канкурэнцыяй па карупцыі

У першую чаргу, неабходна завяршыць затарможаную працу па стварэнні на базе кожнага жылога дома таварыства ўласнікаў. Заканадаўства для гэтага маецца. Артыкул 165 Жыллёвага кодэксу наўпрост указвае: з моманту ўзнікнення права ўласнасці на аб'екты нерухомай маёмасці, якія знаходзяцца ў адным жылым доме або на адной прыдамавой тэрыторыі для двух і больш уласнікаў паўстае неабходнасць выбару наконт спосабу кіравання агульнай маёмасцю. Пры гэтым, па сутнасці, адзіным магчымым спосабам кіравання, які могуць выбраць удзельнікі сумеснага домаўладання, ёсць кіраванне менавіта праз таварыства ўласнікаў.

Па-другое, неабходна выключыць з заканадаўства паняцце «жыллёва-камунальнай паслугі» — і перайсці да выдаткаў па эксплуатацыі агульнай маёмасці. Жыльцы-ўласнікі атрымаюць празрыстыя калькуляцыі плацяжоў адпаведна аптымальна спажытым рэсурсам.

Для гэтага кошты на паслугі электразабеспячэння, цеплазабеспячэння, водазабеспячэння і водаадвядзення, газазабеспячэння, якія прадастаўляюцца манаполіямі, павінны застацца ў зоне рэгулявання антыманапольнага заканадаўства, а аплата ажыццяўляцца паводле фактычнага спажывання, якое фіксуецца з дапамогай адмысловых лічыльнікаў уліку. І тут, у прынцыпе, ёсць заканадаўчая база — указ кіраўніка краіны ад 31 снежня 2015 года № 535 «Аб прадастаўленні жыллёва-камунальных паслуг», які замацаваў метад фармавання расходаў паводле фактычных выдаткаў па эксплуатацыі жыллёвага фонду.

Акрамя гэтага, згодна з Жыллёвым кодэксам, удзельнікі сумеснага домаўладання абавязаныя несці выдаткі па эксплуатацыі (утрыманні, тэхнічным абслугоўванні, бягучым рамонце і капітальным рамонце) агульнай маёмасці прапарцыйна яе долі ў праве агульнай уласнасці на гэтую маёмасць.

Стварэнне юрыдычнай асобы на базе жылога дома дасць магчымасць стварыць механізм узгаднення інтарэсаў удзельнікаў сумеснага домаўладання і прадстаўлення гэтай кансалідаванай пазіцыі перад трэцімі асобамі. А таксама здыме адміністрацыйную нагрузку на органы мясцовай выканаўчай улады па пытаннях, звязаных з непасрэдным кіраваннем і эксплуатацыяй жылога дома, забеспячэннем захаванасці маёмасці. Нарэшце, рэспубліканскі і мясцовыя бюджэты будуць вызваленыя ад субсідавання мясцовых ЖЭС, якія абслугоўваюць жылыя аб'екты без утварэння юрыдычнай асобы (у памеры адпаведных артыкулаў мясцовых бюджэтаў).

## Рэформай па капрамонце

Што тычыцца актуальнай праблемы рэнавацыі жылля, то ў Беларусі створана, па вялікім рахунку, фінансавая піраміда. Грамадзяне маюць ва ўласнасці квадратныя метры ў дамах без утварэння юрыдычнай асобы і праводзяць так званыя адлічэнні на капітальны рамонт у «агульны кацёл» — гэта значыць, у гарадскі бюджэт. Пры такой сістэме новы квадратны метр жылля «фінансуе» стары. Але аб'ём уводу новага жылля недастатковы для падтрымання ў належным стане старога жылога фонду. Плацяжы ж уласнікаў не пакрываюць выдаткаў на правядзенне неабходных працаў па капрамонце, і адбываецца нарастанне зношанасці жылога фонду.

Кожны аб'ект мае гранічны тэрмін для правядзення капрамонту. У сувязі з гэтым у хуткім часе можа скласціся сітуацыя, пры якой дамы проста будуць разбурацца, і дзяржава стане перад фактам неабходнасці прадастаўлення людзям новага жылля. Але дзе яго возьмеш?

Для прадухілення такога развіцця падзеяў і для рацыянальнага выкарыстання рэсурсаў неабходна стварыць «дарожную мапу» рэнавацыі жылога фонду, з тым, каб усталяваць гранічныя тэрміны капітальнага рамонту па серыях узведзеных дамоў, гадах будаўніцтва і населеных пунктах. І падзяліць жылы фонд на дзве катэгорыі.

Да першай аднесці тыя дамы, уласнікі якіх акумулююць грашовыя сродкі на капітальны рамонт у сябе — то-бок, самі займаюцца капітальным рамонтам. Да другой катэгорыі далучыць тыя дамы, уласнікі якіх акумулююць або акумулявалі грашовыя сродкі на капітальны рамонт на рахунак арганізацыі, якая ажыццяўляе эксплуатацыю жыллёвага фонду і прадастаўляе жыллёва-камунальныя паслугі альбо рахункі мясцовага выканаўчага і распарадчага органа, адкрытыя для назапашвання сродкаў, што паступаюць ад насельніцтва на капітальны рамонт. Для такіх аб'ектаў павінна быць распрацаваная дзяржаўная праграма на ўдзел на парытэтных умовах дзяржавы і ўдзельнікаў сумеснага домаўладання ў справе капітальнага рамонту жылога дома.

Пры гэтым у абодвух выпадках капітальны рамонт мусіць праводзіцца ў поўным аб'ёме — з мэтай аднаўлення ўсіх тэхнічных характарыстык дома. Пасля капітальнага рамонту жыльцам дамоў другой катэгорыі варта пачынаць самастойна акумуляваць грашовыя сродкі на новы капрамонт. І пераводзіць гэтае жыллё ў першую катэгорыю.

Да ўсяго, рынак рэнавацыі жылля трэба зрабіць адкрытым для замежных кампаній з тых краінаў, якія маюць досвед і сучасныя тэхналогіі правядзення такіх працаў. Гэты падыход дапаможа мінімізаваць карупцыю, павялічыць жыццёвы цыкл нашых дамоў, скароціць выдаткі бюджэту ў галіну ЖКГ.

# Дырэктыва замест рэформы

Павел КІРЫЛАЎ

**Сёлета з'явіцца стос новых дакументаў, датычных працы жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Гэта — новы Жыллёвы кодэкс, які неўзабаве будзе падпісаны кіраўніком краіны, і шэраг пастаноў, што будуць прынятыя дзеля выканання яго сакавіцкай дырэктывы №7 «Аб удасканаленні і развіцці жыллёва-камунальнай гаспадаркі краіны».**




Што ж пастанавіў Лукашэнка для ЖКГ і для нас як жыльцоў-спажыўцоў? А ўзяць ды падвысіць якасць адпаведных паслуг! Да 1 кастрычніка ўрад сярод іншага павінен вызначыць захады па пашырэнні магчымасцяў выкарыстання электраэнергіі ў жыллёвым фондзе для ацяплення і гарачага водазабеспячэння. Верагодна, каб пераходзіць у гэтай справе з газу на электрычнасць з дапамогай БелАЭС, якая, кажуць, неўзабаве запрацуе.

### Жыльцоў заахвоцяць, жэсаўцаў атэстуюць

Таксама Савет Міністраў прыдумае механізмы заахвочвання грамадзян да ўдзелу «ў энергаэфектыўных мерапрыемствах у жыллёвым фондзе і зніжэння яго цеплаепажывання».

Вось тут трывожна. Увесну Дзяржкамітэт па стандартызацыі паведамляў, што сёлета павінен быць прыняты заканадаўчы дакумент аб падвышэнні энергаэфектыўнасці шматкватэрнага жыллёвага фонду. Паводле яго, рашэнне аб цеплавой мадэрнізацыі можа прымацца на агульных сходах уласнікаў кватэр. То-бок, справа нібыта добраахвотная. І нятанная. Выдаткі пакладуцца цягам дзесяці гадоў у тым ліку і на ўласнікаў кватэраў. Мяркуецца, што гэта будзе зроблена фіксаваным плацяжом у «жыроўках». Напрыклад, для двухпакаёўкі на 48 квадратных метраў сям'і з трох чалавек ён складзе адну базавую велічыню, якая роўная сёння 25,5 рубля.

Аблвыканкамы і Мінгарвыканкам абавязаныя, паводле дырэктывы, у 2020 годзе дасягнуць долі жылля, якое капітальна рамантуецца, у памеры 3% ад жыллёвага фонду і не допускаць зніжэння гэта ўзроўню ў далейшым. У 2025 годзе 100% спажыўцоў павінны быць забяспечаны якаснай пітной вадой.

Арганізацыі ЖКГ штогод мусяць замяняць мінімум 4% ад працягласці цеплавых сетак, нарматыўны тэрміны эксплуатацыі якіх вычарпаныя, і 3% — сетак водазабеспячэння і водаадвядзення. На жаль, нічога не гаворыцца пра скарачэнне часу на адключэнне гарачай вады падчас правядзення прафілактычна-рамонтных прац на трубах.

Апроч таго, дырэктыва загадвае «забяспечыць сацыяльную абарону насельніцтва пры аплаце жыллёва-камунальных паслуг, а таксама ўдасканаленне тарыфнай палітыкі». Малазабяспечаным і сацыяльна ўразлівым катэгорыям грамадзян абяцаюцца безнаяўныя жыллёвыя субсідыі для частковай аплаты ЖКГ-паслуг. Да зімы Савет Міністраў распрацуе парадак фарміравання тарыфаў для насельніцтва і юрыдычных асобаў. Верагодна, тых, каго ўлады залічылі ў «дармаеды», могуць чакаць новыя непрыемныя сюрпрызы.

Яшчэ Лукашэнка прапісаў у дырэктыве шэраг экалагічных захадаў: паэтапнае зніжэнне выкарыстання поліэтыленавай упакоўкі з замяшчэннем яе на шкло і паперу, стварэнне закладной сістэмы абарачэння тары праз адмысловыя аўтаматы, максімальную перапрацоўку адкідаў з дапамогай сучасных тэхналогій.

Дырэктыўна даведзена, што арганізацыі ЖКГ павінны працаваць больш эфектыўна — скарачаць выдаткі, развіваць інфраструктуру. Цікавы пункт тычыцца старшыняў гар- і райвыканкамаў. «Ключавым паказнікам» эфектыўнасці іх працы дырэктыва называе «адсутнасць пратэрмінаванай запазычанасці бюджэту перад арганізацыямі ЖКГ за выкананыя працы і аказаныя паслугі».

Кожны год 20% працаўнікоў жыллёва-камунальнай гаспадаркі будуць навучацца па розных адукацыйных праграмах. А на пасады кіраўнікоў і спецыялістаў арганізацый ЖКГ і дзяржаўных заказчыкаў будуць браць толькі пасля адмысловай прафесійнай атэстацыі.

**Паводле новага Жыллёвага кодэкса, які неўзабаве пачне дзейнічаць, усталёўваюцца дадатковыя патрабаванні да кандыдатаў на пасаду старшыні праўлення таварыства ўласнікаў ці арганізацыі забудоўнікаў**

Дарэчы, важная інфармацыя для тых, хто думае пра тое, каб працаваць у ЖКГ, але не ў дзяржаўных структурах. Гаворка пра пасаду старшыні праўлення таварыства ўласнікаў. Плануецца, што ў Беларускім нацыянальным тэхналагічным універсітэце з'явіцца спецыяльнасць «Упраўляючы нерухомасцю сумеснага домаўпраўлення». Падобная спецыяльнасць можа быць уведзеная і ў Мінскім архітэктурна-будаўнічым каледжы.

### Чый сябар упраўдом?

Сучасная пасада ўпраўдома няпростая — вымагае ведання шырокай заканадаўчай базы, няслушныя дзеянні могуць давесці як да адміністрацыйнай, так і да крымінальнай адказнасці. А пра трывалыя нервы і актыўнасць — наогул залішне казаць. Таму цяпер існуюць розныя курсы для ўжо дзейных старшыняў таварыстваў уласнікаў і тых, хто жадае так папрацаваць.

Кацярына Жаркевіч, якая скончыла курсы ад арганізацыі «Эфектыўнае кіраванне будынкамі», да свайго старшынавання ў таварыстве ўласнікаў «Смарагдавы–2» у Мінску была ў адной асобе заснавальніцай, дырэктаркай і бухгалтаркай салона прыгажосці. Мае тэхнічна-эканамічную адукацыю. Але таварыства ўласнікаў — асаблівая сфера.

Першай складанасцю яна называе вялікую колькасць працадаўцаў — чатырыста чалавек. Аб'ектаў нерухомасці яшчэ болей, бо некаторыя маюць кватэру і гараж-стаянку. «Многія з іх наўпрост заяўляюць: «Я ваш працадаўца, я хачу, каб вы рабілі так, так і так!» Прыходзіць іншы чалавек за ім і кажа: «Я ваш працадаўца, я хачу, каб вы рабілі так, так і так!» І называе рэчы, супрацьлеглыя таму, што патрабаваў першы. Самая вялікая складанасць — знайсці «залатую сярэдзіну», узгадніць інтарэсы ўсіх. Пры гэтым прымаць не толькі чыйсьці пункт гледжання, але і ўмець адстойваць свой. У нейкі момант я стала забываць, што я таксама ўласнік, які мае сваё бачанне, ведае, як хоча жыць, што бачыць з вакна, у які час сутак у мяне павінна гарэць святло ў пад'ездзе або на паркінгу. Пошук кампрамісу — складаная задача, калі хочаш застацца з суседзямі ў добрых стасунках, але і важна не даць ім «сесці на галаву».

Што да тэхнічных пытанняў, напрыклад, працы цеплавузла, то для Кацярыны нічога складнага не было: «Я заканчвала тэхнічную ВНУ, Запарожскі дзяржаўны тэхнічны ўніверсітэт, дзе я засвоіла мноства тэхнічных дысцыплін, аж да ліцця. Інжынерныя сеткі дома мяне не палохалі».

Асноўныя праблемы, якія даводзіцца вырашаць, — гэта, напрыклад, недаробкі забудоўніка: «Калі б я прымала гэты дом сёння, нават з улікам таго, што асноўная частка недаробак ужо выпраўленая, я б гэты дом не прыняла. Ёсць нюансы: і сыход снегу з дахаў (нейкія памылкі ў праекце), і з вентыляцыяй ды каналізацыяй».

Вельмі складана разрульваць канфлікты па шумах і скаргах аднаго суседа на іншага, бо старшыня таварыства не мае міліцэйскіх паўнамоцтваў. Пастаянны галаўны боль — збіранне ўнёскаў і іх абгрунтаванне. Сітуацыя можа ўскладняцца тым, што дамы ў таварystве розныя, матэрыяльны стан іх уласнікаў адрозніваецца: у выніку адзін дом гатовы здаваць унёскі беспераб ойна, а ў другім многія жыльцы наважаныя нават пайсці на абслугоўванне да ЖЭС.

Дарэчы, паводле новага Жыллёвага кодэкса, які неўзабаве пачне дзейнічаць, усталёўваюцца дадатковыя патрабаванні да кандыдатаў на пасаду старшыні праўлення таварыства ўласнікаў ці арганізацыі забудоўнікаў.

«Дзейнасцю праўлення арганізацыі ўласнікаў кіруе старшыня праўлення арганізацыі ўласнікаў, які абіраецца на тэрмін, які не перавышае пяці гадоў, у адпаведнасці са статутам арганізацыі ўласнікаў. Старшыня праўлення арганізацыі ўласнікаў абіраецца з ліку сяброў арганізацыі ўласнікаў або асобаў, якія не з'яўляюцца чальцамі арганізацыі ўласнікаў. Старшыня праўлення арганізацыі ўласнікаў абіраецца з ліку грамадзян, якія маюць вышэйшую адукацыю або якія маюць сярэднюю спецыяльную (тэхнічную, эканамічную, юрыдычную) адукацыю і стаж працы на кіруючых пасадах у арганізацыях жыллёва-камунальнай гаспадаркі і (або) кіравання нерухомай маёмасцю не менш за пяць гадоў, а таксама пасведчанне аб праходжанні прафесійнай атэстацыі», — гаворыцца ў дакуменце.

А яшчэ гэтая кандыдатура павінна быць узгодненая з мясцовымі ўладамі.

Якія будуць наступствы? Дэфіцыт такіх кадраў з тым жа стажам і падвышэнне коштў іх паслуг? Магчыма, такім чынам дзяржава хоча ўзяць дзейнасць таварыстваў уласнікаў, фармальна самастойных і незалежных, пад свой кантроль. Паглядзім, як гэта норма будзе выконвацца на практыцы.



# 10 спосабаў змяншэння «жыроўкі»

Міраслаў ГАЖЭЦКІ

**Чым бліжэй тыя часы, калі беларусы будуць стопрацэнтна аплачваць жыллёва-камунальныя паслугі, тым больш актуальнай робіцца эканомія на вадзе, цяпле ды электрычнасці. Прапануем падборку лайфхакаў, як ашчаджаць на спажыванні ЖКГ-паслугаў. Немцы могуць — і мы зможам! Нават мусім, зважаючы на ўзровень заробкаў.**


Фота www.ex-press.by

Адны парады запатрабуюць выхоўваць у сабе цягам нейкага часу звычкі пастаянна пільнаваць выдаткі вады ці электраэнергіі, другія — гэта разавыя тэхнічна-гаспадарчыя справы дзеля ашчаднага спажывання рэсурсаў, трэція — бухгалтарска-менеджарскія захады. Ну, і ўсе нашы падказкі законныя: ніякіх магнітаў на лічыльнікі!

Для пачатку вывучыце і зафіксуйце выдаткі паводле вашых апошніх «жыровак», каб параўноўваць з лічбамі ў наступных — «прасунута-ашчадных». Так вы прастымулюеце самі сябе рублём!

### 1. «Кранальны» метад

Перад выправай на выхадныя дні (напрыклад, на лецішча) занатуйце паказчыкі лічыльнікаў вады. Па вяртанні — спраўдзіце, як яны змяніліся. Калі павялічыліся — праверце сантэхніку. Пры патрэбе парамантуйце краны. Нібыта відавочна, але тым не менш: струменьчыкі і нават кроплі з іх — гэта сотні літраў вады цягам месяца.

Дарэчы, на кухні і ў ванным пакоі варта ўсталяваць рычаговыя краны замест двухвентыльных, калі ў вас такія. Гэта эканомія часу і вады падчас падбірання пажаданай тэмпературы. Пастаўце на краны адмысловыя распыляльнікі (аэратары), дзякуючы якім вы будзеце спажываць ваду ў некалькі разоў меней. Па гэтай логіцы і душавую насадку лепей прыдбаць з драбнейшымі адтулінамі.

Наогул, душавая кабінка — гэта значна больш эканомны варыянт, чым ванна. Падлічана, што на адно прыманне ванны выліваецца ад 150 літраў вады і болей, а на адно мыццё пад душам — каля 50.

### 2. Супраць плыні

Калі мыеце посуд, паспрабуйце заткнуць мыйку. Так вы наблізіцеся па эканомнасці расходавання вады да пасудамыечнай машыны, калі яе не маеце. Выключайце кран падчас чысткі зубоў ці галення. Можа, вам і падабаецца, як цурчыць такі міні-вадаспад, але за хвіліну выліваецца 5–10 літраў. Канешне, выхаванне ў сабе такой звычкі — справа няпростая. Але ж на лецішчы ці на вёсцы, дзе выгоды не ў доме і няма водаправоду на ўчастку, атрымлівалася ж у многіх чысціць зубы пры рукамыйніку!?

### 3. Пашкадуйце ўнітаз

Натуральна, паладзьце ўнітаз, калі ён «цячэ»: апрача нядбайства, гэта ж яшчэ і паганыя гукі. Дый наогул: адно змыванне ўнітаза — гэта спусканне амаль 10 літраў вады. Спосабы эканоміі наступныя: пазбаўцеся звычкі рабіць з унітаза другую сметніцу, каб не змываць там адкіды, умантуйце кнопку эканамічнага змывання або скарыстайцеся з «народнага вынаходніцтва» — пакладзіце ў змывальны бачок пластыкавую пляшку ці некалькі пляшак з вадой, каб зменшыць аб'ём набранай і зліванай вады.

### 4. Пафарбуйце батарэі

Гэта адзін са спосабаў эканоміі на ацяпленні. Абазнаныя ў фізіцы даводзяць, што перафарбаваныя ў цёмны колер батарэі будуць выпраменьваць крыху болей цяпла. Чаму не, калі гэта і інтэр'ерна будзе пасаваць? Яшчэ раяць усталяваць за батарэямі цеплаадбівальны экран (пафарбаваны ў срэбны колер ці абгорнуты фольгаю), каб сцяна не забірала цяпло ад батарэі ў пакоя. Гэта дадасць некалькі градусаў у памяшканні. Дый канчаткова, хто мае такую завядзёнку, сушыць на батарэі рэчы — гэта пагаршае абаграванне кватэры.

Не выключана, што вернуцца ў моду і дываны на сценах. Яны дапамагаюць захоўваць цяпло, калі сцяна выходзіць на вуліцу ці лесвічную пляцоўку. Натуральна, трэба ўцяпліць жытло ўсімі мажлівымі спосабамі: усталюйце якасныя вокны, уваходныя і балконныя дзверы, не пакідайце шчылінаў.

**Ёсць магчымасць замовіць у камунальнікаў пераразлік у «жыроўках» — не плаціць за паслугі ЖКГ за той перыяд, калі вы і вашы сямейнікі ў кватэры ці доме не жылі, і паслугамі не карысталіся. Напрыклад, калі вы з'язджалі на адпачынак ці на лецішча**

### 5. Кантралюйце дэвайсы

З элементарных парадаў, якія варта паўтарыць для эфекту засечак у памяці: укруціце энергазберагальныя лямпачкі (гэта 50% эканоміі электрычнасці) і выключайце святло, калі выходзіце з пакоя. Калі такая дысцыпліна не пра вас, то можа дапамагчы адна з тэхналогіяў «разумнага дома» — усталюйце датчыкі руху, каб непатрэбнае святло гасла само. Не пакідайце электрапрыстасаванні падключанымі да разетак. Бачылі ў сваіх прыборах лямпачкі? Калі яны гараць у дэвайсах, электраэнергія спажываецца імі без вашага дазволу.

### 6. «Камуналка 2.0»

Інтэрнэт- і тэлепакеты, мабільная сувязь — карыснае з прыемным. Гэта не ЖКГ-паслугі, але ў сямейным бюджэце блізкія да іх. Шмат хто гэтыя выдаткі залічвае ў свае агульныя камунальна-арганізацыйныя выдаткі. Таму варта прааналізаваць: ці аптымальныя пакеты ды тарыфы ў вас абраныя? Не забывайцеся, што тыя самыя інтэрнэт-правайдары даюць магчымасць прыпыніць дзеянне інтэрнэт-тарыфу на час адпачынку ці камандзіроўкі. Гэта лёгка робіцца ці праз тэлефанаванне, ці праз асабісты кабінет на сайце правайдара.

### 7. Антытарыф «Мяне няма»

Гаворка пра магчымасць замовіць у камунальнікаў пераразлік у «жыроўках» — не плаціць за паслугі ЖКГ за той перыяд, калі вы і вашы сямейнікі ў кватэры ці доме не жылі. А значыць, гэтымі паслугамі не карысталіся. Напрыклад, калі вы з'язджалі на адпачынак ці на лецішча. Галоўная тут умова — запатрабаваць пераразлік можна толькі тады, калі вас не было болей за 10 дзён запар.

Магчымасць пераразліку распаўсюджваецца на вываз камунальных адкідаў, каналізацыю, ліфт, халоднае і гарачае водазабеспячэнне, а таксама газазабеспячэнне, калі адсутнічаюць прыборы ўліку. Да адмысловай заявы ў разлікова-даведкавы цэнтр або ў таварыства ўласнікаў трэба прыкласці доказныя дакументы, што вы працяглы час не жылі дома. Напрыклад, даведку з санаторыя ці дачнай адміністрацыі, пашпарт з адзнакамі выезду з Беларусі і ўезду назад і гэтак далей.

### 8. Скарга «А за што плаціць?»

Можна запатрабаваць пераразліку ў памеры 10% ад кошту вады, калі яна не адпавядала санітарным нормам: напрыклад, утрымлівала зашмат жалеза. Да 30% такая кампенсацыя павінна вырасці паэтапна да 2025 года. А калі на працягу месяца ваду будуць адключаць больш за два разы на час, які перавысіць тэхнічныя нарматывы (а ліквідаваць аварыю павінны за 8–24 гадзіны), то можна запатрабаваць паменшыць на 10% плату, налічаную за ўвесь такі праблемны месяц.

Можна дамагчыся змяншэння платы за ацяпленне, калі ў кватэры па факце халодна ці занадта горача: тэмпература паветра больш за суткі трымаецца ніжэй +18 градусаў і вышэй +24. Калі камунальнікамі будзе парушацца ўсталяваны графік правядзення адмысловых працаў па тэхабслугоўванні, то памер платы за гэта знізіцца на 10–25% у залежнасці ад відаў працаў.

### 9. Кухарце эканомна

Аказваецца, і гатаваць ежу дома можна, дбаючы пра «жыроўку». Калі ў вас электрапліта, то памеры посуду павінны адпавядаць канфоркам, каб электрычнасць не палілася дарма. А каб вада хутчэй закіпала, не забывайцеся пра накрыўку над каструляй. Калі ў вас газавая пліта, то рэгулюйце полымя так, каб яно не ахінала каструлю па баках, бо самая высокая тэмпература на кончыках языкоў агню.

Калі нават гэта будзе і не па фэн-шуй, не стаўце лядоўню каля батарэі і пад прамымі сонечнымі промнямі, бо яны павялічваюць расход электраэнергіі. А для эфектыўнага ахаладжвання радыятара не варта ставіць лядоўню блізка да сцяны. Адлегласць павінна быць хаця б 10 сантыметраў. І не змяшчайце ў лядоўню нічога гарачага — напрыклад, толькі што зваранага супу. Гэта скароціць расход электрычнасці і не дасць утварыцца наледзі ў халадзільнай камеры. Тое самае тычыцца накіпу ў электрачайніку — гэта павялічвае працягласць награвання. Таму чайнік трэба рэгулярна чысціць, а лядоўні — размарожваць. І пра чыстку пыласосу з той самай прычыны не забудзьцеся.

### 10. Эканомныя літары

Самыя энергаэфектыўныя мадэлі бытавой тэхнікі абазначаныя на зялёным тле літарамі A++, A+, A, B. Яны даражэйшыя за тыя, што маюць C, D, а тым болей E, F, G на ўпакоўцы, але і праслужаць даўжэй, і энергарэсурсы эканомяць.

Зрэшты, галоўная эканомія робіцца наладамі, зробленымі ўласнымі рукамі. У пральнай машыне мыць вопратку можна спакойна ў халоднай вадзе. Большасць забруджванняў лёгка і так адмыецца, а значная частка энергіі выдаткоўваецца менавіта на падаграванне вады. Для параўнання, награванне вады да 60 градусаў запатрабуе ў чатыры разы болей энергіі, чым давядзенне яе да 30 градусаў.

Якімі спосабамі дзеля скарачэння выдаткаў на паслугі ЖКГ вы гатовыя скарыстацца?


Фота www.ekogradmoscow.ru

**Многія нашы архітэктары абараняюць «хрушчоўкі» і з эстэтычных меркаванняў. Не, выглядаюць яны досыць непрывабна, але кварталы з малапавярховымі «панэлькамі» савецкіх часоў — зялёныя, ціхія, прасторныя, і не заціскаюць чалавека**

# Колькі яшчэ прастаяць «хрушчоўкі»?

Павел КІРЫЛАЎ

**Раз-пораз уздымаецца праблема састарэлых жылых малапавярховікаў, узведзеных за савецкім часам. Маўляў, пакуль яны не пачалі складвацца, як карткавыя дамкі, час рыхтавацца да зносу і перасялення жыхароў у новазбудаванае жытло. Але, у адрозненне ад той самай Масквы, дзе пастанавілі знесці ўсе «хрушчоўкі», і актыўна гэта робяць, у нас вырашылі працягнуць іх жыццё з дапамогай капрамонтаў. Ці слушна гэта?**

Ідэя ўзвядзення масавага тыпавога жылля прыйшла ў галаву кіраўніка СССР Мікіты Хрушчова падчас візіту ў Францыю, дзе ён пабачыў кварталы кампактных жылых дамоў з нізкім коштам будаўніцтва. Пасля Другой сусветнай вайны многія савецкія грамадзяне жылі ў бараках, «камуналках» і ледзьве не ў зямлянках, таму перасяленне ў хай малагабарытнае ды з іншымі, паводле сённяшніх меркаванняў, недахопамі, але патрэбнае і бясплатнае жытло было святочнай падзеяй для тысяч сем’яў.

## Кампактнасць супраць камфорту

Распрацаваў праекты першых серый такога жытла вышынёй да пяці паверхаў архітэктар Віталь Лагуценка — дарэчы, дзед лідара расійскага музычнага гурта «Мумій Троль». Спачатку гэтыя дамы і называлі адпаведна «лагуценаўкамі», але ўрэшце народ ахрысціў іх «хрушчоўкамі» («хрушчобамі»). Як раней былі «сталінкі», а затым «брэжнеўкі». І сапраўды: «хрушчоўкі» — архітэктурны сімвал той эпохі.

Пачалі іх узводзіць у Маскве напрыканцы 1940-х гадоў. У Мінску першыя «хрушчоўкі», ужо па мадэрнізаваных, палепшаных праектах, пабудавалі на дзясятак гадоў пазней. Усяго ў Беларусі ўзводзілі «хрушчоўкі» некалькіх тыпавых серый — самай удалай і распаўсюджанай была 1-464, дамоў гэтай серыі болей за ўсё у Мінску. Другая па распаўсюджанасці, але дастаткова праблемная — 1-335 (шмат, напрыклад, у Віцебску ды Магілёве).

Звычайна гэта «панэлькі», але былі таксама цагляныя дамы і рэдка блочныя. Без смеццеправодаў і ліфтаў, а то і без балконаў. Менавіта таму, што адсутнасць ліфтаў рабіла будаўніцтва «хрушчовак» больш танным, зусім мала іх пабудавалі 9-павярховымі. У Мінску ўсяго некалькі вышынных «хрушчовак».

«Хрушчоўкі» — гэта мініяцюрныя лесвічныя клеткі ў пад’ездзе з чатырма кватэрамі на паверсе, вузкія лесвіцы, у кватэрах — маленькая кухня (каля 6 квадратных метраў), сумешчаны цесны санвузел, мізэрны калідор — ровар не паставіш. Калі кватэра шматпакаёвая, то зала — абавязкова прахадная. Столь вышынёй 2,5 метра.

Сярод іншых «мінусаў»: бывае, немагчыма зрабіць перапланіроўку праз наяўнасць унутраных нясучых сценаў, нізкая цеплаізаляцыя вонкавых сценаў (таму «хрушчоўкі» ўцяплялі падчас капрамонтаў), дрэнная шумаізаляцыя. Пляскаты дах патрабуе, як паказала практыка, частага рамонту. Кепская асветленасць пакояў: яны ўяўляюць сабою выцягнутыя прамакутнікі з вокнамі на меншых баках. Затое ў кватэрах былі прадугледжаныя кладоўкі і ўбудаваныя шафы.

Савецкі народ жартаваў так: «Хрушчоў аб’яднаў ванну і прыбіральню, але не паспеў злучыць столь і падлогу!»

Чаго ж было асаблівага чакаць, калі «хрушчоўкі» пачалі масава будаваць пасля прынятых у сярэдзіне 1950-х гадоў


«Хрушчоўка» ў Германіі
Фота www.varlamov.ru

пастановаў Савета Міністраў СССР з такім назвамі: «Аб развіцці вытворчасці зборных жалезабетонных канструкцыяў і дэталяў для будаўніцтва»; «Аб захадах па далейшай індустрыялізацыі, паляпшэнні якасці і зніжэнні кошту будаўніцтва»; «Аб выкараненні празмернасцяў у праектаванні і будаўніцтве». Аднак пастаўленая мэта вырашыць дэфіцыт жылля была ажыццёўленая. Дый у параўнанні са «сталінкамі» сабекошт зборкі «хрушчовак» быў зніжаны на 30%.

Пад іх мініяцюрнасць «затачылі» і прамысловасць — у прыватнасці, сталі выпускаць кампактную мэблю. А тагачасная рэклама рабіла акцэнт на тое, што ў «хрушчоўках» усё пад рукой: зручна — і эканомія часу. Змізарнела і роля архітэктараў. Генсек кампартыі Хрушчоў асабіста чахвосціў іх за «рэцыдывы архаікі і ўпрыгажэнства».

## Знос па-маскоўску не пасуе?

«Хрушчоўкам» самых першых серый тагачаснымі нарматывамі адводзіўся 25-гадовы тэрмін эксплуатацыі, пазнейшых — 50-гадовы. Затым у выніку даследаванняў былі зробленыя высновы, што ў рамонтапрыдатных з іх можна жыць і па 100–150 гадоў.

Напрыканцы існавання СССР была распрацавана дзяржаўная праграма мадэрнізацыі «хрушчовак». У якасці эксперыменту паводле «Белжылпраекту», які выйграў усесаюзны конкурс, рэканструявалі адзін з дамоў на вуліцы Асіпенкі ў Мінску. У ім надбудавалі мансарду, кватэраў стала амаль на два дзясяткі меней, затое плошча іх значна павялічылася.

Спробы мадэрнізацыі прадпрымаюцца і дасюль, але гэта рэдкія выпадкі. Бо, па-першае, Жыллёвы кодэкс Беларусі прадугледжвае надбудову мансардаў толькі пры ўмове, што на гэта пагодзяцца 51% жыхароў дома. А такой згоды на пераўтварэнне жытла ў будаўнічую пляцоўку дамагчыся вельмі няпроста. Па-другое, мансарды — дарагое задавальненне: кошт квадратнага метра супастаўляльны з «квадратам» новага будаўніцтва, пры тым, што ўжо маюцца інжынерныя сеткі.

Але чаму ў Маскве «хрушчоўкі» масава зносяць цэлымі кварталамі, а ў нас яшчэ не кранулі ніводнай? Першы чыннік — эканоміка. Знос аднаго квадратнага метра каштуе болей за траціну ад кошту новаўзведзенага. У Маскве зямля і жытло значна даражэйшыя, чым у Мінску. Таму інвестараў хапае. Будуючы замест 5-павярховіка гмах на 20–25 паверхаў, ён застаецца ў добрым плюсе, нават выдаткоўваючы грошы на знос старога жытла і прадастаўленне выселеным з яго людзям новых кватэраў.

Затое кошт квадратнага метра капітальнага рамонту ў нас на практыцы абыходзіцца ў прыкладна 50–100 долараў. Таму працягнуць тэрмін эксплуатацыі беларускіх «хрушчовак» было вырашана менавіта праз капрамонты. Калькулятар вырашае!

## Эканоміка вышэй за бяспеку?

Але ці значыць гэта, што эканоміку ўлады Беларусі паставілі вышэй за бяспеку людзей? І «хрушчоўкі» сапраўды вось-вось пачнуць разбурацца, становячыся ледзь не магіламі для іх жыльцоў? У Маскве ж такія дамы прызналі аварыйнымі?!

Насамрэч, усё не так страшна. Справа ў тым, што маскоўскія «хрушчоўкі», як распавядаюць у Навукова-даследчым праектна-вышукальным інстытуце «Белжылпраект» ды пацвярджаюць адмыслоўцы іншых профільных установаў, належаць зусім да іншых серыяў, чым беларускія. Там вельмі тонкія панэлі, нездарма такія дамы ў сталіцы былога СССР узводзілі за паўтара-два месяцы — гэта і з мантажом, і з унутраным аздабленнем!

Маскоўскія «хрушчоўкі» папросту рамонтанепрыдатныя — у адрозненне ад мінскіх, якія са сценамі і перакрыццямі з жалезабетону дастаткова трывалыя. Час якраз паспрыяў трываласці. Састарэлі перадусім у плане энергаэфектыўнасці вонкавыя сцены, таму іх і апраналі ў капрамонтныя «шубы».

Дарэчы, часцяком мадэрнізуюць, а не зносяць, свае «панэлькі» немцы. Праўда, вонкава ў выніку яны выглядаюць значна больш прывабна, чым у нас. Там сапраўды гэтым будынкам даецца другое жыццё. Між тым, многія нашы архітэктары абараняюць «хрушчоўкі» і з эстэтычных меркаванняў. Не, выглядаюць яны досыць непрывабна, але кварталы з малапавярховымі «панэлькамі» савецкіх часоў — зялёныя, ціхія і прасторныя, не заціскаюць чалавека. У адрозненне ад высокіх і шчыльных «каменных джунгляў» новых раёнаў, ды ўжо шмат якіх забудаваных абшараў у цэнтры сталіцы.

Нейкіх дакладных нарматываў па часе, на які працягнулі тэрмін эксплуатацыі «хрушчовак», няма, але найчасцей кажуць пра тое, што праграма па зносе можа пачацца дзесьці праз 30 гадоў. Тым больш, што іх жыхары зусім не наракаюць і не патрабуюць перасялення. Абы да гэтага часу, цьху-цьху, не здарылася ніякіх няшчасных выпадкаў. Праграма рэнавацыі «хрушчовак» павінна быць не экстранай, а добра пралічанай.

Так, новае жытло павінна прадастаўляцца людзям у тым самым раёне, дзе было і старое. Дарэчы, у Маскве так і робіцца. Прычым, жыхароў з «хрушчовак» перасяляюць адразу ў новае жыллё, а не прапануюць спачатку часовы дах з так званага «падменнага фонду». І кватэры даюць на 20% большыя — за кошт нежылых і дапаможных памяшканняў. Некаторыя пытанні там дыскутуюцца, напрыклад, магчымасць дакупкі дадатковага метражу па льготных коштах і вяртання сплачаных адлічэнняў на капітальны рамонт.

Паглядзім, як гэты працэс зладзяць у нас. Адно ясна, што ўсё будзе клопатна і маштабна: усяго ў Беларусі каля 2500 «хрушчовак», а ў Мінску — 1300.




Фота www.leprogres.fr

# Другая смерць Дэ Голя

Алег НОВІКАЎ

**Цяперашнія паведамленні з Францыі міжволі нагадваюць падзеі 1996 года, калі ў Беларусі быў апублікаваны прэзідэнцкі праект зменаў у Канстытуцыю.**

Як ні дзіўна, сярод беларускіх дэмакратаў сустракаліся людзі, якія віталі кардынальнае скарачэнне паўнамоцтваў парламента на карысць выканаўчай улады. Імі рухала надзея на тое, што на Карла Маркса, 38 вырашылі імпартаваць у Сінявокую мадэль Пятай Французскай Рэспублікі, якую, як вядома, прыдумаў Шарль дэ Голь.

Аднак з часам стала зразумела, што ніякай Францыяй у нас не патыхае, і такі забаўны палітычны кірунак, як «беларускія галісты», сканаў. Праз 25 гадоў, падаецца, дайшла чарга і да арыгіналу. Французскія галісты губляюць палітычную вагу і электаральную базу.

Абвал пачаўся яшчэ напрыканцы траўня, калі «Рэспубліканцы» (у 2015-м так стаў называцца «Саюз за народны рух», правапераемнік «Аб'яднання ў падтрымку Рэспублікі») атрымалі на выбарах у Еўрапарламент усяго восем з хвосцікам працэнтаў. Мінорная лічба прымусіла старшыню Ларана Вак'е напрасіць пра адстаўку. З 2 чэрвеня партыю ўзначальвае Жан Леанэці.

Але гэта быў толькі першы акт драмы. 10 чэрвеня 72 мэры, што былі абраныя па спісах «Рэспубліканцаў», кінулі партбілеты на стол і дружна накіраваліся ў лагер Макрона. Ніхто не ведае, што рабіць. Ніхто не хоча нічога рабіць. Ніводны з аўтарытэтаў, у тым ліку Нікаля Сарказі, не гарыць жаданнем выступаць у ролі крызіснага менеджара.

Што будзе далей з палітычнай структурай, якая, па сутнасці, сфармавала сучасную Францыю? Натуральна, можна прытрымлівацца версіі, што крызіс мае часовы характар, а ўсе праблемы паўсталі праз асабісты фактар. Фігура папярэдняга старшыні адразу выклікала скептыцызм у шараговага прыхільніка «Рэспубліканцаў». 33-гадовы філосаф Ларан Вак'е не вельмі пасаваў вобразу барацьбіта за сямейныя традыцыі — асноўны трэнд цяперашніх галістаў. Экс-старшыня нават публічна прызнаваўся, што не супраць абортаў. Таму на апошніх выбарах «Рэспубліканцамі» і быў сабраны такі кволы ўраджай галасоў.

Шукаюць «стрэлачніка» і сярод тых, хто працаваў над выбарчай праграмай партыі. Чамусьці яе аўтары ігнаравалі экалагічную тэматыку, якая нечакана стала топавай для французаў. Замест гэтага акцэнт быў зроблены на праблемах эканомікі і эміграцыі. Аднак у гэтых пытаннях Эмануэль Макрон і Марын Ле Пэн, вядомая сваімі ксенафобскімі поглядамі, выглядалі больш пераканаўча. У выніку выбаршчык-галіст перабег пад новыя партыйныя сцягі.

Нарэшце, можна дапусціць самую драматычную версію краху «Рэспубліканцаў»: галісты і іх ідэйны багаж банальна перасталі пасаваць нашаму часу. Сапраўды, каму ў нашым стагоддзі патрэбныя іх канцэптуальныя фішкі 50-х гадоў мінулага стагоддзя? Накшталт асацыяцыі працы, капіталу і кадраў, што на практыцы азначае рэгламентацыю міністэрствамі працы ўсёй буйной гаспадаркі, што ўключае таксама і салідны дзяржаўны сектар. Як адаптаваць падобныя запаветы Шарля дэ Голя да рэаліў сучаснай глабальнай эканомікі? Тое ж тычыцца і галісцкіх прынцыпаў знешняй палітыкі, галоўны пастулат якой вымагае трымацца прынцыпу прагматычнага нацыяналізму аж да падтрымкі квебекскіх франкафонаў-сепаратыстаў.

Не дзіўна, што ўжо ў 1980-я гады частка галістаў (група Жака Шырака) пачала флірт з ліберальнымі эканамістамі і падтрымала перадачу Еўрапейскаму саюзу часткі французскага суверэнітэту. Пасля таго, як галісты ў 2002 годзе аб'ядналіся з больш ліберальным «Саюзам за французскую дэмакратыю», некаторыя палітолагі ўжо тады казалі пра палітычную смерць галістаў.

Такому падыходу апаніравалі фракцыі «Рэспубліканцаў», якія марылі пра мадэрнізацыю галісцкай спадчыны. Існаванне такой ідэйна мазаічнай кампаніі пад адным дахам не магло цягнуцца вечна. Пасля таго, як Макрон перацягнуў на свой бок ліберальна арыентаваных галістаў, уся канструкцыя пачала руйнавацца.

У любым выпадку, дзякуючы апошнім падзеям, палітычная сцэна Францыі перажыла хуткую трансфармацыю ў супрацьстаянне сацыял-лібералаў Эмануэля Макрона і правых папулістаў Марын Ле Пэн. Цяпер палітычныя каментатары разважаюць над перспектывамі такой дуэлі, дапускаючы самыя фантастычныя сцэнары. Напрыклад, перамогу прыхільнікаў Ле Пэн на хвалі пратэстнага галасавання. Іншыя лічаць, што цяперашняя расстаноўка палітсілаў часовая, і хутка палітычнае поле зноў падзеліцца на правых і левых.

Так ці інакш, з маргіналізацыяй галістаў губляе сакральнасць і іх галоўны прадукт — Пятая рэспубліка і яе Канстытуцыя. Цяпер голас аматараў моцнай прэзідэнцкай улады (і не толькі ў Францыі) будзе гучаць больш слаба. Таму ў гэтай сферы, напэўна, можна чакаць значных пераменаў.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Бако Саакян



Кіраўнік непрызнанай Нагорна-Карабахскай Рэспублікі можа казаць пра міжнародны прарыў Нагорнага Карабаху. Ён адбыўся дзякуючы правядзенню Чэмпіянату свету сярод футбольных каманд сепаратысцкіх, аўтаномных і іншых самаабвешчаных тэрыторый.

Чэмпіянат, што праходзіў у чэрвені пад дахам Канфедэрацыі незалежных футбольных асацыяцый (CONIFA) сабраў каманды вельмі экзатычных краін, напрыклад, Лапландыі. Пераможцам спаборніцтваў апынулася Паўднёвая Асецыя.

Трэба прызнаць, што турнір сапраўды меў міжнародны рэзананс. З-за ўдзелу ў ім каманд Нагорнага Карабаху і Абхазіі спецыяльную асуджальную заяву зрабіла грузінскае МЗС. А іх калегі з Азербайджана, якому юрыдычна належыць Нагорны Карабах, паспрабавалі сарваць мерапрыемства. Па дыпламатычных каналах ім атрымалася прымусіць адмовіцца ад паездкі на Каўказ футбалістаў французскай Ніцы. Акрамя таго, у мясцовай прэсе актыўна высмейвалі турнір, называлі яго пародыяй на футбол.

Так ці інакш, гэта самае буйное спартыўнае мерапрыемства ў Нагорным Карабаху за час абвяшчэння незалежнасці. Нельга не згадаць загадкавую гісторыю з удзелам зборных Данецкай і Луганскай народных рэспублік. Гэтыя сепаратысцкія рэгіёны Украіны, якія падтрымлівае Расія, адмовіліся ад удзелу ў чэмпіянаце, паколькі, нібыта, не змаглі аплаціць транспартныя выдаткі.

### Джасцін Амаш



Амерыканскі кангрэсмен-рэспубліканец ад Мічыгана парушыў, напэўна, самы важны пункт негалоснага кодэкса рэспубліканца — падтрымаў прапанову дэмакратаў вынесці аднапартыйцу Дональду Трампу імпічмент. На такі крок больш ніхто не адважыўся, хаця апанентаў у Трампа сярод рэспубліканцаў хапае нават на ўзроўні губернатараў.

Сам Амаш кажа, што падтрымаў імпічмент, паколькі гэта абавязак кожнага народнага абранніка. Аднак агучваецца версія, што дэпутат так моцна не любіць Дональда Трампа, які актыўна падтрымлівае Ізраіль, праз сваё арабскае паходжанне. Так ці не, але наступствы не прымусілі сябе чакаць. Частка рэспубліканцаў заклікае адклікаць Джасціна Амаша з Кангрэсу, а два чалавекі ўжо заявілі пра намер балатавацца ў Кангрэс па акрузе, якую зараз прадстаўляе ў Вашынгтоне Амаш. Палітыка таксама выключылі з двух уплывовых рэспубліканскіх клубаў.

Тым не менш, некаторыя аднапартыйцы віталі ўчынак Амаша. Паводле падлікаў спецыялістаў, прыкладна 10 працэнтаў рэспубліканцаў не сімпатызуюць цяперашняму прэзідэнту, і ўчынак Амаша можа мабілізаваць унутраную антытрампаўскую апазіцыю. У сувязі з гэтым чакаецца, што Трамп вельмі жорстка і паказальна адпомсціць Амашу за здраду.

### Мая Санду



Новая кіраўніца ўрада Малдовы разам са сваімі паплечнікамі дамагалася выгнання алігарха Уладзіміра Плахатнюка, які доўгі час негалосна кіраваў краінай.

Як належыць усім палітыкам у экс-СССР, якія дарваліся да ўлады, перш за ўсё Санду вырашыла разабрацца з папярэднікамі. 18 чэрвеня прэм'ер заклікала грамадзян паведамляць ураду пра злоўжыванні і злачынствы «рэжыму» лідара Дэмакратычнай партыі Плахатнюка. Паводле яе словаў, ва ўрадзе будзе працаваць тэлефон даверу, па якім грамадзяне змогуць паведамляць пра ўсе выпадкі злоўжыванняў, ціску і іншых злачынствах ранейшых уладаў. Пазней незалежныя адпаведныя органы будуць правяраць скаргі і караць людзей Плахатнюка.

Цікава, як адрэагуюць малдаване на заклікі Санду ў кантэксце заяваў самога Плахатнюка? Апошні пакінуў краіну, але затым у сацсетках абвясціў, што пераходзіць у апазіцыю, і паабяцаў хутка вярнуцца назад.

У вяртанне алігарха слаба верыцца, але ўсё магчыма. Кааліцыя, якой кіруе Санду, вельмі няўстойлівая, і ў выпадку яе краху Плахатнюк можа зноў стаць важным гульцом. Нагадаем, што большасць мэраў у Малдове з'яўляюцца чальцамі клана Плахатнюка.

Вельмі цікава, якая краіна дала алігарху прытулак. Апошні раз Плахатнюка бачылі ў Адэсе адкуль ён, быццам бы, накіраваўся ў Лондан.



Сяргей
ШАПРАН

# З Быкавым без Быкава

**Васілю Быкаву 19 чэрвеня было б 95. І зусім побач з гэтай датай — дзень сыходу. Сёлета ўжо 16 гадоў, як Беларусь жыве без Быкава, і, мусіць, час прыгадаць, што было зроблена для яго памяці.**



## Легенда з назваю «Быкаўскі камень»

Яшчэ восенню 2004 года на магіле Васіля Быкава паўстаў валун з Фінляндыі, дзе пісьменнік жыў па першым часе пасля ад'езду ў 1998 годзе за мяжу. Гэта стала магчымым дзякуючы найперш намаганням паэта Уладзіміра Някляева, кіраўніка Хельсінскага дэпартамента культуры Юрыё Лармолы і віцэ-прэзідэнта Фінскага ПЭН-цэнтра Юкі Малінена.

Чаму валун (з адваротнага боку якога надпіс «Ад горада Хельсінкі») не з радзімы Быкава, а з Фінляндыі, дзе, як казаў Юка Малінен, што апякаў Васіля Уладзіміравіча падчас фінскага перыяду ягонага жыцця, ён не толькі вельмі плённа працаваў, але і знайшоў пейзаж сваёй душы? Рыгор Барадулін бачыў у гэтым невытлумачальную загадку. Дый сам Някляеў, калі пісаў пра дарэшты выкананую апошнюю волю Быкава, задаваўся пытаннем: «Што ў ёй, у гэтай волі? Чаму не беларускі камень на магіле аднаго з найгодных сыноў Беларусі, а гранітны валун з Фінляндыі, дзе пражыў Быкаў зусім нядоўга?.. Чаму менавіта так, а не інакш выявіў сваю апошнюю волю чалавек, які ніколі і нічога не выпрашаў выпадкова?.. Кожны пра тое можа меркаваць па-свойму. Быкаў пакінуў нам і нашым нашчадкам геніяльную загадку, па смерці напісаную прыпавесць, легенду з назваю «Быкаўскі камень», твор з глыбіннай метафарай і сюжэтам, які ў будучыні будзе поўніцца самымі рознымі здагадкамі, будзе працягвацца, дапісвацца ў самых розных варыянтах».

Зрэшты, правільней было б сказаць, што апошняя прыпавесць Быкава засталася незавершанай. І дапісаць яе ўзяўся Уладзімір Някляеў.

## «…і хата таксама пасівеець»

2004 год быў адзначаны яшчэ адной неверагоднай падзеяй: у роднай быкаўскай вёсцы Бычкі рашэннем віцебскіх уладаў паўстала Сядзіба-музей Васіля Быкава. Праўда, адразу ўзніклі пытанні. Найперш — ці варта было руйнаваць старую хату? Другое пытанне — аўтэнтычнасці. Сястра Быкава Валянціна Уладзіміраўна, убачыўшы наноў адбудаваны дом, казала: «Хата мая як цэркаўка стала, нават не пазнала яе!» Аднак мудра разважыў Генадзь Бураўкін: «Мы пасівелі — і хата таксама пасівеець. Галоўнае, каб цяпер тут з'явіўся дух Васіля Быкава». Зрэшты, трэба аддаць належнае: гэта быў смелы, небывалы ўчынак віцебскіх уладаў, які варты ўсялякай павагі, — наважыцца стварыць першы ў краіне музей Быкава.

Бычкі хутка зрабіліся своеасаблівым эпіцэнтрам культурнага жыцця: сюды не толькі завітвалі беларускія і замежныя турысты — мастакі пачалі ладзіць пленэры, а Аляксандр Мілінкевіч у дзень народзінаў пісьменніка штогод уручаў прэмію «За свабоду думкі» імя Васіля Быкава (сярод яе лаўрэатаў Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, Уладзімір Някляеў, Уладзімір Арлоў, Алесь Марачкін, Алесь Пушкін, Валеры Мазынскі, Зміцер Вайцюшкевіч, Лявон Вольскі, Віктар Шалкевіч, Павел Севярынец, Зміцер Дашкевіч, а таксама краязнаўцы Алесь Белакоз і Ада Райчонак).

З цягам часу з'явіліся і іншыя быкаўскія музеі. Так, у Гродне музей Васіля Быкава стварылі ветэраны Другой сусветнай вайны. Экспазіцыя, што месцілася ў невялічкім пакойчыку ветэранскай арганізацыі, вылучалася ўнікальнасцю, бо галоўнае яе багацце склалі рэчы, што падаравала ўдава пісьменніка Ірына Міхайлаўна. Але сёлета з прычыны адсутнасці фінансавання музей быў зачынены, а яго экспанаты перададзеныя ў гродзенскі Музей Максіма Багдановіча.

Пяць гадоў таму яшчэ адзін унікальны музей з'явіўся і пад Мінскам, у Ждановічах. Гэта сталася магчымым пасля бязвыплатнай перадачы Ірынай Міхайлаўнай дзяржаве сямейнага лецішча і дзякуючы спрыянню тагачаснага міністра культуры Паўла Латушкі.

Аднак усе іншыя ініцыятывы і да сёння застаюцца ініцыятывамі — у Беларусі няма ні помніка народнаму пісьменніку, ні бібліятэк і навучальных устаноў з яго імем, няма яго і на мапе Мінска. Затое такія вуліцы пачалі паціху з'яўляцца па-за сталіцай: у Ждановічах, Лельчыцах, Смалявічах. Да таго ж у Віцебску павесілі адпаведную мемарыяльную дошку на будынку былой мастацкай вучэльні, дзе ў 1939–1940-х гадах вучыўся пісьменнік.

Падсумоўваючы, трэба сказаць дзеля справядлівасці, што першы быкаўскі музей узнік усё ж не ў Беларусі, а ва Украіне, у сяле Вялікая Севярынка, што на Кіравааградчыне, дзе ў 1943–1944 гадах ваяваў Быкаў і дзе на мясцовым абеліску ў гонар загінулых у Другой сусветнай вайне доўгі час значылася і ягонае імя.

## «Наш Быкаў»

Ужо праз год пасля смерці пісьменніка намаганнямі выдавецтва «Кніга» і блізкага быкаўскага сябра паэта Генадзя Бураўкіна выйшаў зборнік успамінаў «Наш Быкаў», сярод аўтараў якога былі сваякі — сястра Валянціна Уладзіміраўна і сын Васіль — і славутыя літаратары, мастакі, навукоўцы, палітычныя і грамадскія дзеячы: Валянцін Аскоцкі, Мікола Аўрамчык, Рыгор Барадулін, Лявон Баршчэўскі, Данута Бічэль, Валянцін Блакіт, Гаўрыла Вашчанка, Анатоль Вярцінскі, Радзім Гарэцкі, Алесь Жук, Сяргей Законнікаў, Віктар Казько, Барыс Кіт, Анатоль Кудравец, Лазар Лазараў, Раман Лубкіўскі, Сяргей Навумчык, Уладзімір Някляеў, Зянон Пазьняк, Дзмітро Паўлычка, Давід Сімановіч, Івонка Сурвіла, Валянцін Тарас, Леанід Шчамялёў, Уладзімір Яварыўскі, Сакрат Яновіч...

І хоць Бураўкіна часам упікалі за тое, што ён нібыта паспяшаўся з гэтай кнігай, але час паказаў, што Генадзь Мікалаевіч меў рацыю, бо шматлікія ўспаміны, што з'явіліся пасля выхаду «Нашага Быкава», засталіся раскіданымі ў часе і прасторы, то-бок у розных кнігах і на газетна-часопісных старонках, сабраныя ж пад адной вокладкай так і не былі. Што шкада, бо ў ліку аўтараў успамінаў Чынгіз Айтматаў, Святлана Алексіевіч, Грыгорый Бакланаў, Генадзь Бураўкін, Барыс Васільеў, Ніл Гілевіч, Аляксандр Дракахруст, Барыс Клейн, а таксама першы кіраўнік незалежнай Беларусі Станіслаў Шушкевіч і былы прэзідэнт СССР Міхаіл Гарбачоў.

Да таго ж можна ўзгадаць кніжачку паэтычных прысвячэнняў «Пасланец мужнасці», складзеную з 77 вершаў 56 паэтаў, сярод якіх Рыгор Барадулін, Данута Бічэль, Генадзь Бураўкін, Анатоль Вярцінскі, Сцяпан Гаўрусёў, Ніл Гілевіч, Сяргей Законнікаў, Уладзімір Караткевіч, Навум



**Дзякуючы блізкаму сябру Васіля Быкава Генадзю Бураўкіну ў 2004 годзе з'явілася кніга ўспамінаў «Наш Быкаў».**
Фота Уладзіміра Крука

Кіслік, Уладзімір Някляеў, Пімен Панчанка, Яўгенія Янішчыц.

Безумоўна, вартая ўвагі і манаграфія канадскага прафесара Зіны Гімпелевіч «Васіль Быкаў: кнігі і лёс», якая была выдадзена па-англійску, а потым і ў перакладзе на рускую мову. Можна было б сказаць колькі слоў і пра двухтомнік «Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця ў дакументах, публікацыях, успамінах, лістах», але паколькі ён падрыхтаваны аўтарам гэтых радкоў, дастаткова, мусіць, будзе згадкі.

## Невядомы Быкаў

Яшчэ пры жыцці пісьменніка «Мастацкай літаратурай» быў запланаваны яго васьмітомны Збор твораў, але ў кнігарнях ён не з'явіўся ні ў 2003 годзе, ні пасля. Нягледзячы нават на тое, што Генадзь Бураўкін звяртаўся да тагачаснага кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі Урала Латыпава з просьбай выдаць хоць бы некалькі асобнікаў, каб Быкаў паспеў патрымаць іх у руках.

Затое Саюзам беларускіх пісьменнікаў спачатку пры дапамозе былога рэктара БДУ Аляксандра Казуліна і маскоўскага выдавецтва «Время», а пасля разам з беларускім выдавецтвам «Кнігазбор» было распачата выданне 14-томнага Поўнага збору твораў Быкава. Праўда, з цягам часу высветлілася, што ўсяго напісанага Васілём Уладзіміравічам можа хапіць ажно на дваццаць тамоў, у выніку праца расцягнулася на доўгі час. Сёлета павінна выйсці 2-я кніга 10-га тома.

Зрэшты, пра Быкава выдаўцы не забываліся ўвесь гэты час. Сярод адметных выданняў варта ўзгадаць кнігу «Калі рукаюцца душы...: паэзія з прозай», куды ўвайшлі не толькі прыпавесці Быкава, але і паэтычныя лісты Барадуліна. Другім сумесным праектам паэта і празаіка стала кніга «Дажыць да зялёнай травы...: ліставанне і аўтографы Васіля Быкава і Рыгора Барадуліна (1960–2003)» — эпісталярна-літаратурны дыялог двух вялікіх пісьменнікаў. Апроч таго, падзеяй зрабіўся і публіцыстычны зборнік «Быкаў на Свабодзе», у які патрапілі інтэрв'ю, пачынаючы з 1991 года і заканчваючы чэрвенем 2003 года, калі Васіль Уладзіміравіч, каментуючы сітуацыю вакол Беларускага ліцэя, даў апошняе сваё інтэрв'ю.

Увогуле, толькі пасля сыходу Быкава стала вядома, што дасюль апублікавана далёка не ўся яго літаратурная спадчына. Невядомыя апавяданні, прыпавесці і аўтабіяграфічныя запісы










**Вокладка кнігі «Час шакалаў». Толькі пасля смерці пісьменніка стала вядома пра аповесць, якая цяпер друкуецца пад рознымі назвамі: як «Афганец» і як «Час шакалаў»**

**Толькі пасля сыходу Быкава стала вядома, што дасюль апублікаваная далёка не ўся яго літаратурная спадчына. Невядомыя апавяданні і прыпавесці друкаваліся ў часопісе «Дзеяслоў»**

працяглы час друкаваліся ў часопісе «Дзеяслоў». Гэтаксама з цалкам не вядомых твораў была складзена кніга «Гарадзенскі архіў», куды ўвайшлі не толькі незавершаныя і невядомыя апавяданні і прыпавесці 1957–1972 гадоў, але і нататнікі з хатняга архіва, які захавалі сыны пісьменніка Сяргей і Васіль.

Аднак і гэта былі не ўсе літаратурныя сенсацыі...

## Без цэнзуры

Толькі ў 2004 годзе стала вядома пра аповесць, якую перад ад'ездам у Фінляндыю Быкаў перадаў на захаванне крытыку Міхасю Тычыну, сказаўшы пры гэтым: «Гэтую павястушку публікаваць пакуль што не час. Няхай пачакае. Я вам давяраю. Казаць пра гэта нікому не трэба». Аповесць пра наш сённяшні час (унікальны выпадак для Быкава) неаднойчы потым друкавалася, прычым кожнага разу пад рознымі аўтарскімі назвамі — і нейтральнай, як «Афганец», і бязлітасна-метафарычнай, як «Час шакалаў».

У 2007 годзе пабачыла свет і незавершаная аповесць «Бліндаж», а праз пяць гадоў і больш ранняя па часе напісання аповесць «Атака» (прадвесніца «Праклятай вышыні»). І зноў жа без перабольшвання літаратурнай сенсацыяй сталі непадцэзурныя выданні «Мёртвым не баліць» і «Ліквідацыі» (аўтарская назва «Сотнікава»), што ўпершыню праз дзесяткі гадоў былі надрукаваныя без умяшальніцтва цэнзуры. (Між іншым, сам Быкаў не раз шкадаваў з прычыны страты першай рэдакцыі «Мёртвым не баліць», аднак знойдзеная была не толькі яна, але нават і чарнавік твора.)

Сумна іншае: гэтыя выданні аказаліся першыя і апошнія — і ў Беларусі, і па-за яе межамі па-ранейшаму аддаюць перавагу падцэнзурнаму Быкаву. І толькі ва Украіне да 95-годдзя беларускага пісьменніка выдалі пераклад ранняй рэдакцыі «Мёртвым не баліць», гэтаксама вярнуўшы ў тэкст усе дзвесце купюр, што былі зробленыя шчыраваннем пільных савецкіх цэнзараў.

## Рэквіем па фільму

Пасля сыходу пісьменніка з'явілася адразу некалькі дакументальных фільмаў: «Васіль Быкаў. Апошнія дні» Галіны і Сяргея Навумчыкаў, «Васіль Быкаў. Вяртанне» Віктара Корзуна, «Васіль Быкаў. Настальгія» Віктара Дашука, а таксама расійскія стужкі «Васіль Быкаў. Лінія фронта» Сяргея Агеенкі і «Васіль Быкаў. Рэквіем» Сяргея Галавецкага.

І толькі адну, першую стужку — «Дарогу дадому... Рэквіем» Мікалая Дзінава і Ірыны Пісьменнай — напаткаў незайздросны лёс: аўтарам было адмоўлена ў пракатным пасведчанні. Афіцыйная матывацыя: «Прадстаўлены фільм прысвечаны ўспамінам пра пісьменніка-франтавіка Васіля Быкава, чыя творчасць па ваеннай тэме амаль цалкам экранізаваная. Аднак у прадстаўленым фільме не распавядаецца пра Васіля Быкава-пісьменніка, а сам фільм можа адмоўна паўплываць на маральна-этычныя асновы жыцця беларускага народа».

Пакідаючы без каментароў сумнеўную матывацыю адмовы, заўважым, што экранізаваная далёка не ўся творчасць Васіля Быкава. І ў гэтай сувязі як не ўзгадаць, што так і не атрымаў магчымасці зняць апавяданне «Жоўты пясочак» кінарэжысёр Ігар Дабралюбаў, які шмат гадоў літаральна прагнуў паставіць гэтае, па яго словах, апавяданне біблейскага характару. Гэта быў ужо другі выпадак у творчай біяграфіі Ігара Міхайлавіча — яшчэ ў 1970-х гадах яму не дазволілі экранізаваць славутага «Сотнікава», хоць Быкаў па просьбе Дабралюбава напісаў кінасцэнар, але яго «зарэзала» цэнзура, знойдзены і ўпершыню апублікаваны ён быў пасля смерці аўтара.

## Эпілог да пралога

Чым яшчэ запомніліся гэтыя пятнаццаць з лішнім гадоў? Фільмам Сяргея Лазніцы «У тумане», што, удзельнічаючы ў конкурснай праграме Канскага кінафестывалю, атрымаў спецпрыз Міжнароднай федэрацыі кінапрэсы. Быкаўскімі выставамі ў музеях Мінска, Гродна, Віцебска. Першым франтавым лістом пісьменніка, які быў выпадкова знойдзены, калі хату Быкавых у Бычках разбіралі па бярвёнах. Венскім крэслам з той жа хаты, на якім маленькі Васіль выразаў нажом бацькавы ініцыялы («Б. В. Х.») і якое не ўзялі ў бычкоўскі музей таму, што яно было зламанае і выглядала не дужа прывабна. Не прынялі і пасля рэстаўрацыі, бо было перададзена «неадпаведным чынам». Затое рарытэтнае крэсла без ваганняў тут жа прыняў сталічны Музей гісторыі беларускай літаратуры...

Увогуле, можна ўпэўнена сцвярджаць, што знаходкі і адкрыцці на гэтым не скончыліся — яны абавязкова яшчэ будуць, бо далёка не ўсе архівы Мінска, Гродна і Масквы даследаваныя, не сабраная цалкам і эпісталярная спадчына. Аднак тут паўстае няўмольнае пытанне: калі гэта будзе зроблена, і ці будзе зроблена наогул? Яно, гэтае невясёлае пытанне, застаецца адкрытым і сёння. Нават праз пятнаццаць з лішнім гадоў пасля сыходу Васіля Быкава.



**Васіль Быкаў і Рыгор Барадулін не толькі сябравалі — выйшла некалькі іх сумесных кніг.**
Фота Уладзіміра Карміліна



**2004 год, вёска Бычкі. Сядзіба-музей Васіля Быкава вось-вось адчыніцца.**
Фота Сяргея Шапрана

# Рыцар сумлення і свабоды

## Прысвячаецца 95-годдзю з дня нараджэння Васіля Быкава



**Па гарызанталі:** 1. Вёска на Ушаччыне, дзе 95 гадоў таму, 19 чэрвеня 1924 года, нарадзіўся Народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў. 5. Мужчынскае імя. 8. «Праклятая ...». Аповесць Васіля Быкава (1968 год). 11. Чэрвень — ... доўгіх траў і сенакосаў (прыказка). 13. Ганаровае званне, якім неаднаразова быў узнагароджаны пісьменнік, грамадскі дзеяч, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны Васіль Быкаў. 14. ... на зіму працуе (прыказка). 18. «Калі ... выб'ецца з туману, // Толькі іх і ўспомніць хор народаў, // Воінаў сваіх, святых і раненых, // Рыцараў сумлення і свабоды». З верша Уладзіміра Караткевіча «Васілю Быкаву». 19. Раздзел аповесці, кнігі. 20. Вялікі апавядальны твор; ім з'яўляецца ... Васіля Быкава «Кар'ер» (1986 год). 21. Група крышталёў, якія зрасліся ў аснове. 22. Тое, што і кінафільм; дакументальнае ... «Узыходжанне» пра Васіля Быкава стварыў вядомы беларускі кінарэжысёр Віктар Дашук. 23. «Жоўты ...». Апавяданне пісьменніка пра жудасны лёс вязняў, якіх сталінскія вылюдкі везлі на расстрэл у Курапаты. Па апавяданню кінарэжысёр Аляксей Туровіч зняў мастацкі кінафільм з аднайменнай назвай. 27. Выкрык. 30. «Доўгая ... дадому» (2004 год). Кніга ўспамінаў Васіля Быкава, у якой пісьменнік распавядае пра найбольш яркія старонкі сваёй біяграфіі. 31. «Штоночы ўстаюць і ідуць на заданне // Хлопцы-... апошняй вайны». З верша Генадзя Бураўкіна «Балада пра мінёраў», прысвечанага Васілю Быкаву. 32. Ансамбль з васьмі выканаўцаў.

**Па вертыкалі:** 1. «Любіце і шануйце, як святыню, роднае слова, з якім вас літасцівы ... на свет пусціў». Францыск Скарына. 2. Падраздзяленне, катэгорыя. 3. «А як Радзіме жыць без Васілька? // Ці будзе каласіцца ў полі ...?». З верша Георгія Ліхтаровіча «Памяці Васіля Быкава». 4. Армія без палкаводца, што ... без галавы (прыказка). 6. «Ды ён не там, дзе змрок, дзе тлен і тло. // Ён тут, дзе дух жывы, дзе ... і дзе святло». З верша Анатоля Вярцінскага «Ён недзе тут...», прысвечанага памяці Васіля Быкава. 7. Участак баёў; на ... мужны абаронца Радзімы Васіль Быкаў прабыў ад пачатку і да самага заканчэння вайны. 9. «Воўчая ...». Аповесць пісьменніка (1998 года) аб жыцці ў чарнобыльскай зоне. 10. «Ёсць ...! // Беларусь жыве, // Пакуль жыве ў кожным сэрцы Быкаў». З верша Рыгора Барадуліна «Ратай», прысвечанага памяці пісьменніка. 12. Узор. 15. Ганенне, выгнанне з Радзімы; тое, праз што прайшоў на сваёй зямлі выдатны сын Беларусі Васіль Быкаў. 16. ... Рыгораўна. Імя маці пісьменніка; бацька — Уладзімір Фёдаравіч, удзельнічаў у Першай сусветнай і грамадзянскай войнах. 17. Аднадушнасць, сяброўскія адносіны; тое, што існавала паміж Васілём Быкавым, Рыгорам Барадуліным і Генадзем Бураўкіным, ураджэнцамі Віцебшчыны. 24. Англійская мера даўжыні. 25. Тое, што і вохра. 26. Жаргон. 27. «... беды». Аповесць (1982 год), за якую пісьменнік атрымаў Ленінскую прэмію. 28. «Маладосць», «Новы ...». Беларускі і ўсесаюзны часопісы, у якіх у застойныя гады друкаваліся творы Васіля Быкава. 29. Барыс ... . Беларус свету, буйнейшы ў свеце вучоны-астрафізік, сяброўства і гутарку з якім Васіль Быкаў распавёў у кнізе «Грамадзянін свету».

**Склаў Лявон Целеш, г. Дзяржынск**

**Адказы на крыжаванку «Ах, Чарнобыль!» (НЧ №15 ад 19 красавіка):**

**Па гарызанталі:** 1. Бусел. 4. Талака. 6. Апарат. 10. Свіст. 11. Кантата. 12. Вецер. 15. Навык. 17. Асада. 19. Галоп. 20. Ігрок. 21. Горан. 22. Вазак. 24. Цэзій. 26. Картынг. 30. Абрыс. 32. Лялька. 33. Валеры. 34. Марка.

**Па вертыкалі:** 1. База. 2. Свет. 3. Ласт. 5. АЭС. 7. Але. 8. Звон. 9. Неба. 13. Акупант. 14. Малітва. 16. Велюр. 18. Абраз. 21. Грэх. 23. Крыж. 25. Імя. 27. Атам. 28. Твар. 29. Ніва. 31. Бэр.

# БагатаДата

**Сусветны дзень рыбалоўства і Дзень работнікаў беларускай пракуратуры, 40 гадоў Чырвонай кнізе Беларусі і гадавіна Люблінскай уніі. Іншыя круглыя даты і юбілеі — у нашым аглядзе.**

### 22 чэрвеня

**Дзень усенароднай памяці ахвяраў Вялікай Айчыннай вайны** адзначаецца ў Беларусі.

**1929.** У Ташкенце нарадзіўся беларускі архітэктар Юлій Пурэцкі. Кіраўнік аўтарскага калектыву, які склаў Генплан Мінска ў пачатку 1980-х гадоў.

### 23 чэрвеня

**Міжнародны алімпійскі дзень.** Адзначаецца ў гонар аднаўлення алімпійскага руху ў сучасным фармаце.

**1944.** Падчас Другой сусветнай вайны пачалася наступальная аперацыя савецкай арміі «Баграціён», у выніку якой тэрыторыю Беларусі цягам двух месяцаў вызвалілі ад фашысцкай акупацыі і была амаль цалкам разгромленая нямецкая групоўка войскаў «Цэнтр».

**1994.** Беларусы першы раз абіралі прэзідэнта — у гэты дзень прайшоў першы тур выбараў–1994. Яго вынікі: у другі тур выйшлі дэпутат Вярхоўнага Савета і дырэктар саўгаса «Гарадзец» Шклоўскага раёна Магілёўскай вобласці Аляксандр Лукашэнка — 44,82% галасоў, а таксама прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч — 17,33%, далей размясціліся дэпутат і лідар БНФ Зянон Пазняк — 12,82%, былы старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч — 10%, старшыня Саюза аграрнікаў Аляксандр Дубко — 6%, кіраўнік Партыі камуністаў Беларускай Васіль Новікаў — 5%.

### 24 чэрвеня

**1959.** У Мінску нарадзілася балерына, народная артыстка Беларусі Інэса Душкевіч (Рагнеда ў пастаноўцы «Страсці» Андрэя Мдзівані і Валянціна Елізар'ева).

### 25 чэрвеня

**1989.** У Вільні завяршыўся распачаты напярэдадні ўстаноўчы з'езд Беларускага народнага фронту «Адраджэньне». У Мінску на яго правядзенне прэзідыум Вярхоўнага Савета дазволу не даў. Дэлегаты дабіраліся з Беларусі за свой кошт, на заклік тамтэйшага нацыянальна-вызвольнага руху «Саюдзіс» на ноч іх прытулілі жыхары Вільні. У прынятай праграме БНФ сярод іншага было зазначана права на выхад Беларусі са складу СССР, вяртанне гістарычнай сімволікі і статус адзінай дзяржаўнай беларускай мовы. Быў абраны Сойм, які ўзначаліў Зянон Пазьняк.

### 26 чэрвеня

**Дзень работнікаў пракуратуры ў Беларусі і Міжнародны дзень барацьбы з наркотыкамі.**

**1934.** У расійскім Чарапаўцы нарадзіўся беларускі архітэктар Юрый Градаў. Асноўныя працы: мемарыяльныя комплексы «Хатынь», «Кацюша», помнікі класікам беларускай літаратуры Янку Купалу і Якубу Коласу ў Мінску.

**1974.** Мінску нададзена званне «Горад-Герой». Яго сталіцы Беларусі доўга не хацелі даваць. Маўляў, ужо праз некалькі дзён горад акупавалі немцы: які гераізм? Вельмі ўпарта за наданне Мінску гэтага звання змагаўся кіраўнік БССР Пётр Машэраў. Усяго яно было нададзена 12 савецкім гарадам і Брэсцкай крэпасці — адмысловае званне «Крэпасць-Герой».

### 27 чэрвеня

**Сусветны дзень рыбалоўства.**

**1909.** У вёсцы Звонь Ушацкага раёна на Віцебшчыне нарадзіўся пісьменнік Сяргей Знаёмы (сапраўднае прозвішча — Клопаў). У 1937 годзе асуджаны як «член контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі». Узімку 1944-га ўцёк з лагера на Калыме, але далейшы лёс невядомы.

**1949.** У вёсцы Казлоўшчына Пастаўскага раёна на Віцебшчыне нарадзіўся дыпламат Міхаіл Хвастоў. У 2000-х гадах быў міністрам замежных спраў Беларусі і паслом у ЗША.

### 28 чэрвеня

**1569.** Быў заключаны акт Люблінскай уніі — дзяржаўнага саюза паміж Каронай Польскай і Вялікім Княствам Літоўскім. Набыла моц 4 ліпеня.

**1979.** Заснаваная Чырвоная кніга Беларусі. А першае выданне пабачыла свет праз два гады. Аснову Чырвонай кнігі складае спіс рэдкіх жывёлаў і раслінаў, які зацвярджаецца Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №957

Падпісана да друку 21.06.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.